


Экскурсія ў мінулае →4


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Пра Францыска Скарыну →5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3208) Год LXII | Беласток, 5 лістапада 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


## Швед і Васылюк — людзі вялікага аптымізму!

— Віктар Швед заслугоўвае не толькі ўзнагароды Маршалка Падляшскага ваяводства. У гэтай справе капітул прагаласаваў аднагалосна. Я лічу, што Віктар Швед заслугоўвае агульнадзяржаўнай узнагароды «Gloria Artis». Для нас ён не толькі класік беларускай літаратуры. Як чалавек і асоба, гэта прыклад жыццёвага аптымізму для людзей малодшых за сябе ў два або і тры разы, — кажа Дарафей Фіёнік, лаўрэат узнагароды Маршалка ад 2014 года.



На віншавальнай грамаце, падпісанай маршалкам Ежы Ляшчынскім, чытаем такія словы ў адрас лаўрэата: **З сапраўднай радасцю прызначаем Вам Узнагароду, за цэлы жыццёвы творчы шлях, асабліва за паэтычную творчасць якая з'яўляецца запісам памяці жыцця беларускай меншасці ў Польшчы.**

— Для нас важна, каб пачынальнікі і стваральнікі «Нівы», якія ад 1956 года сябруюць з тыднёвікам, адчувалі сябе дацэненымі, — кажа **Яўген Вапа**, які заявіў асобу паэта да ўзнагароды.

Літаратура з'яўляецца неад'емнай часткай «Нівы», тут узнікла «Белавежа», па сённяшні дзень праводзім літаратурны конкурс «Дэбют». Літаратура дае штуршок, імпульс да развіцця мовы. Калі няма літаратуры на роднай мове, ёсць толькі абміранне. Таксама па прапанове «Нівы» такую ўзнагароду раней атрымала Надзея Артымовіч. Гэта дзве розныя літаратуры, але яны разам ствараюць шырокую палету мовы, у якой ёсць месца ад прыродаапісання па эстэтычныя і экзістэнцыянальныя плыні.

Праз гэтыя ўсе гады Віктар Швед праявіў сябе не толькі як плённы аўтар. Вершы, якія друкуем у «Ніве» і «Зорцы», паказваюць на грамадскую актыўнасць і інтэлектуальную спраўнасць паэта. Ён ад пачатку верны свайму паэтычнаму крэда: «Я — беларус і гэтым ганаруся». Сёння, мы разам з тысячу чытачамі, можам сказаць «Мы — беларусы, ганарымся Віктарам Шведам!».

— Думаю, што чалавек, які ўсё жыццё працаваў у літаратуры, пастаянна, кожны год, кожны месяц і кожны тыдзень, як ніхто заслугоўвае такой узнагароды, — кажа **Барбара Пякарская**. — Застанецца толькі пытанне: *чаму раней ён не атрымаў гэтай узнагароды?*

Яго творчасцю карысталіся пакаленні беларусаў, дзеці і дарослыя. За гэта належыцца вялікая пашана. Для аб'яднання АБ-БА, якое займаецца адукацыяй — гэта чалавек крыніца, чалавек новых ідэй і жывая легенда. Гэта яшчэ, што лічу важным, добры чалавек.

Віктар Швед са сваёй жонкай, калі яшчэ іх Наталька была ў школе, дапамагалі нам ва ўсім. Яны з такіх бацькоў, на якіх заўсёды можна было разлічваць і гэта не памянялася па сённяшні дзень. Яны заўсёды гатовы дапамагчы і словам, і думкай, а часам грашыма, асабліва, калі не было яшчэ аб'яднання.



■ Падарунак ад рэдакцыі Віктару Шведу

Але найперш сваім аўтарытэтам. Гэтага абсалютна не пераацаніць.

— Мая дачка выступала ў беларускіх конкурсах з вершамі Віктара Шведа, таму для мяне вялікі гонар сёння стаяць побач спадара Шведа, — кажа **Аляксандр Васылюк**, наймалодшы сёлетні лаўрэат узнагароды маршалка, намінаваны Супрасльскай акадэміяй. Аляксандр Васылюк узнагароджаны за 50 фотапрэзентацый у 14 краінах свету пад загалоўкам: «Колеры праваслаўя. Польшча».

— Мой поспех, калі параўнаць з іншымі сёлетнімі лаўрэатамі, мабыць, заўчасны. На гэта складаецца таксама праца цэлага калектыву, — заяўляе лаўрэат.

Поспех не ўзяўся з нічога. Раней быў старшынёй Праваслаўнага брацтва, дзейнічаў у міжнароднай арганізацыі «Syndesmos», а калі прыйшоў час адысці ад маладзёвага руху, стварыў інтэрнэтны інфармацыйны сэрвіс, які паставіў сабе задачу прэзентаваць прыгожасць роднага праваслаўя ў свеце. Праект сайта ORTHPHOTO даў такую магчымасць, паколькі камунікуе ён з дапамогай вобразу. Першыя выстаўкі, прысвечаныя манастыцызму карысталіся вялікім прызнаннем, пасля прыйшла ідэя паказаць нейкі канкрэтны край і пачалі з найбліжэйшага месца — з Польшчы. Выстаўку «Колеры праваслаўя. Польшча» паказалі ўжо ў 50 месцах, у 14 краінах свету, а дзякуючы сайту пабачылі яе жыхары за сто краін свету.

— Мы зламалі адзін стэрэатып, — кажа Аляксандр Васылюк. — Раней у свеце глядзелі на Польшчу выключна як на каталіцкую краіну. І гэта ў краінах, дзе такога не павінна быць. Вось у Мінску вельмі здзіўляліся, што ў Польшчы шмат цэркваў і такое багатае духоўнае жыццё.

Аляксандр Васылюк сваім прыкладам і працай хацеў бы зашчапіць моладзі ахвоту дзейнічаць у карысць іншых.

Разам арганізавалі шмат культурных мерапрыемстваў, напрыклад, канцэрт Сяргея Рахманінава ці праекцыю фільма пра прафесара Ежы Навасельскага. Неўзабаве выйдзе з друку кніга з размовамі з епіскапам Іерэміяй на беларускай мове.

Поспех Аляксандра Васылюка пракаментаваў **Дарафей Фіёнік**:

— З Алікам Васылюком я знаёмы больш за дваццаць гадоў, і ён не памяняўся, застаўся такім, якім быў. Гэта чалавек бескарыслівы, які думае шырока, не чакае ўзнагарод. Гэта вялікі падзвіжнік у сённяшнім свеце. Ён падцягвае ўзровень праваслаўя ў Польшчы, каб яно не зводзілася да адной парафіі і не жыло адно парафіяльнымі фэстамі, каб выходзіла па-за муры. З Віктарам Шведам, — дадае Дарафей Фіёнік, — спалучае яго вялікая энергія і той аптымізм, які сам па сабе з'яўляецца вялікай каштоўнасцю ў сучасным свеце. Менавіта той аптымізм ужо варты самой узнагароды.

Сёлета, у час 18 выпуску капітул Узнагароды Маршалка Падляшскага ваяводства з ліку 15 намінаваных назначыў сем лаўрэатаў. Разам з **Віктарам Шведам** і **Аляксандрам Васылюком** узнагароды атрымалі: сапраністка **Марлена Баркоўская**, мастак **Пшэмыслаў Філіп Карвоўскі,** акцёрка **Барбара Мушынская-Пецка,** археолаг **Уршуля Станкевіч**, педагог **Тадэвуш Шэрашэўскі.** Урачысты гала-канцэрт папоўнілі выступленні лаўрэаткі Марлены Баркоўскай і вучняў беластоцкай «чацвёркі», якія праспявалі песню на словы Віктара Шведа.

Паэт, якому за 92 гады, у час прамовы, заявіў:

— Магу сказаць, што з «Нівай» я цэлае сваё доўгае працоўнае жыццё. Я ўжо на зыходзе і думаю, што гэта прыйдзе неўзабаве, спадзяюся аднак, што застанецца па маім доўгім жыцці нейкі след.

Лаўрэат публічна падзякаваў рэдактару Яўгену Вапу, які заявіў яго асобу да ўзнагароды.

— Я хацеў бы, каб кожны год нехта з нашага асяроддзя атрымліваў такую ўзнагароду, — кажа Яўген Вапа. — У нас шмат такіх людзей, якіх трэба дацаніць пры жыцці. Важна, каб не прапусціць гэтага моманту.

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**



# Парада хворым аўтамабілістам

Прыхварэў я. Прычым хвароба схапіла мяне неяк рэзка, у дарозе. Нібыта нічога страшнага, ехаць недалёка і асаблівага ўплыву на пільнасць гэтае недамаганне на шафёра з больш чым трыццацігадовым стажам не павінна аказаць. Проста знізіў на ўсялякі выпадак хуткасць і стаў узірацца ў ветравую шыбу шырока адчыненымі вачамі. Але на нейкім адрэзку дарогі сустрэчны аўтамабіль, пад'ехаўшы да мяне вельмі блізка, рэзнуў мне па гэтых шырока адчыненых далёкім святлом. Я западозрыў, што хіба я несвоечасова на думку шафёра таго аўто пераключыў святло з далёкага на блізкае, і сустрэчны суайчыннік такім чынам вырашыў мне адпомсціць.

Тое, што на дарозе людзі часамі забываюцца пераключыць святло, справа не рэдкая. Ну то тады „маргнеш" фарамі таму затарможанаму, ён хуценька і выправіцца. Так раней было заўсёды. Але біць па вачах далёкім святлом сучасных іншамарак, гэта небяспечна не толькі для таго, каму свеціш у вочы, але і для таго, хто свеціць. Бо фары абодвух машын могуць рэзка сустрэцца каб паспаборнічаць у яркасці і будзе нічыя.

Упэўнены, што сустрэчны суайчыннік таксама пра гэта ведаў, але не змог стрымацца. І ўвогуле, усё часцей заўважаю, што звычайныя бытавыя рэчы пачынаюць настолькі моцна раздражняць людзей, што яны праяўляюць такую агрэсію, пра якую зусім нядаўна ў падобных выпадках ніхто б і падумаць не змог. Узровень агрэсіі ў грамадстве ўзрастае з кожным днём. І гэта не толькі ў нас.

У ЗША адна журналістка ў сацыяльных сетках напісала, што ахвяры масавай бойні ў Лас-Вегасе былі аматарамі музыкі „кантры", а значыць прыхільнікі рэспубліканцаў, якія за продаж зброі. І таму іх не так моцна шкода як іншых людзей. Вось так. Любіш „кантры" і цябе ўжо ў глыбіні душы ненавідзяць. І што самае галоўнае, тыя, хто ненавідзяць, сцвярджаюць што гэта не яны, а іх ненавідзяць. А яны то шчыра любяць увесь свет, ну акрамя там нейкіх аматараў „кантры", рэспубліканцаў, тых хто не раздзяляе іх поглядаў на продаж зброі, іншых поглядаў, і яшчэ там парутройку катэгорый. А ёсць і такія, якія ў гэта яшчэ і вераць.

Ну ў Амерыцы гэтую жудасць не пакінулі без увагі. Жанчыну з такім уяўленнем пра справядлівасць хуценька выперлі з рэдакцыі, даўшы цвёрдую ацэнку таму, што ёсць нянавісць. А вось у нашай суседкі Расіі чарговы напад на журналістку іншага характару. Да такіх нападаў там то ўжо прывыклі. Але гэты быў здзейснены з асаблівым цынізмам. Таццяна Фельгенгаўэр была ў сваёй рэдакцыі, як на яе напаў невядомы і нанёс удар нажом у шыю. Рэдакцыя адной з прычын такой неапраўданай жорсткасці палічыла і матэрыялы прапагандыстаў з дзяржаўных СМІ, якія напоўнены ілжой і ствараюць атмасферу нянавісці. А пра Таццяну Фельгенгаўэр зусім нядаўна быў выпушчаны акурат такі фільм.

У адказ дзяржаўныя прапагандысты абвінавацілі акурат незалежных журналістаў у парушэнні пэўных нормаў, а ў сваё апраўданне сказалі, што нельга іх вінаваціць, калі нейкі псіхічна хворы чалавек лётае з нажом па рэдакцыі незалежных СМІ.

Эх, якія праўдзівыя народныя мудрасці. Адна з іх сцвярджае, што няма такіх вар'ятаў, якія б'юць вокны ў сваёй хаце. Чамусьці той вар'ят не паляцеў з нажом у шырока прадстаўленыя дзяржаўныя рэдакцыі з зорнымі тэлевядучымі і іншымі медыязоркамі вядомымі на ўсю Расію і на ўвесь свет кожнаму вар'яту. А выбраў такую рэдакцыю, матэрыялы якой цікавыя выключна людзям думання. І вар'яту яны на вочы наўрад ці могуць патрапіць нават выпадкова.

І прапагандысты з дзяржаўных СМІ чамусьці ходзяць па горадзе не азіраючыся. Вар'яты ад апазіцыі відаць менш буйныя і ўжо раззброеныя. А вось незалежныя слугі пяра атрымліваюць удары ў розных формах, ажно да крайніх...

Тут усё вядома з даўніх часоў. Раздзяляй і ўладар. Ствары ў грамадстве атмасферу нянавісці і кіруй вар'ятамі...

Ну а калі вы едзеце за рулём і адчулі што магчыма прыхварэлі, то лепш адразу ўключыць бліжняе святло і для бяспекі знізіць хуткасць. На бліжнім святле правілы дазваляюць ездзіць. А пры павольным руху добра думаецца.

Хоць я і зараз упэўнены, што тады я пераключыў святло своечасова.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Ці беларусам трэба баяцца?

А літоўцы, габрэі і ўсе іншыя нацыі ў Польшчы? Справа, аднак, датычыць усіх. У тым ліку палякаў. Вось польскі прымас, арцыбіскуп Войцех Поляк, у інтэрв'ю для выдання «Tygodnik Powszechny» выказаў рэзкі супраціў супрацьбежанскаму, па сутнасці, ксенафобскаму і шавіністычнаму наратыву, які дамінуе ў Польшчы ў цяперашні час. Яго голас не самотны, але не з'яўляецца агульным. Дзеля праўды, каб не высільвацца на эўфемізмы, такі голас вельмі рэдка сустракаецца сярод каталіцкай іерархіі. І тым больш ён занікаючы, чым далей ад іх палацаў, а бліжэй да парафіяльных засценкаў. І трэба прама сказаць, што большая частка каталіцкага духавенства ахвотна далучыла свой голас да хору кансерватыўнага і правага наратыву. Але ці толькі звычайныя святары? Не заўсёды, але здараецца, што голас маўклівых біскупаў сціснуты пасадай, азываецца ў нядзелю прапаведдзю іх падначаленых. Пастыру, загружанаму з галавой у мясцовую супольнасць, лёгка прыходзіцца агучыць тое, што б'ецца падсвядомай крыніцай з яе акасцянелых пераканнняў, страхаў і фобій, з разгубленасці ў сучаснасці і часта з пачуццём адрыньвання ці нават ізаляцыі ад асноўнага патоку падзей, і падчас нядзельных казанняў са слінай яна цячэ ў шырокае вусце ракі ў сэрцах слухачоў. Жадаючы дагадзіць сваім прынцыпалам, але і легкадумным, не зусім выказаным эмоцыям прыхаджан, святары апранаюць у модныя кантэксты ўсім вядомыя словы Бог, Гонар, Айчына. Вера, якая выклікае нацыяналістычны энтузіязм для нацыянальнага шавінізму, такога значнага для наратыву ў кіруючага сёння лагеру ўлады. І ўкараніўся ён у даўно здэвальваваных сучасных кансерватыўных каштоўнасцях нацыяналізму, як гэта відаць у яго вярчанні да мінулага, палітызацыі каталіцкай рэлігіі, нарэшце падпальванні нацыянальнага трыумфу і ўпатрыятычненні мінулых бедстваў нацыі. Прычым старанна закрывае найбольшае паражэнне Польшчы — той факт, што амаль палова палякаў, як паказвае выбарная сімпатыя для кіруючага і супраць еўрасаюзнага ПіС, не зразумела, ці не дасцела да ідэі еўрапейскай супольнасці, заснаванай на прынцыпах роўнасці і дэмакратыі, канстытуцыйнага падзелу ўлады (г.зн. грамадскай кантралюемасці) і свабоды для ўсіх, у словах і перакананнях — зразумела, у рамках закона. Права і справядлівасць таму не трубіць аб сваёй перамозе, што «амаль палова» гэта не абсалютная большасць, якая, такім чынам, здасць «усіх» пад змрочную ўладу кансерватыўнага нацыяналізму. Мала ўсё ж да гэтага не хапае. Адсюль яго шавіністычна-нацыяналістычны наратыў. Аналіз гэтага феномена зрабіў палітычны філосаф і гісторык ідэі Эндру Хейвуд. Так ён піша ў «Палітычных ідэалогіях»: «Нацыянальны шавінізм асабліва моцны ўплыў мае сярод асоб адасобленых і бяспраўных, якім нацыяналізм прапануе перспектыву бяспекі, самапавагі і гонару». І далей: «Нацыянал-шавінізм нараджаецца з выразнага адрознення паміж «імі» і «намі». Павінны быць «яны», якіх высмейваем або ненавідзім, каб стварыліся «мы». А ад таго, як вучыць Гісторыя, толькі адзін крок у бок заядлага расізму. Таму голас польскага Прадстаяцеля на пытанне сурацьбежанскай нагонкі з'яўляецца такім важным. Акрамя таго, ён сустрэўся з хваляй чыстай нянавісці з боку... каталіцканацыяналістычнай часткі грамадства, што з'яўляецца сімптаматычным і страшным. Асабліва, калі далучым да гэтага апошнюю справу, якая звязана з нейкім Цэйроўскім, селебрыцi і вандроўцам не толькі па свеце, але і па ўсіх радыё- і тэлевізійных станцыях у краіне. Ён ведае, дзе быць, каб быць. Каб мець. Вось, у публічных выступах на Радыё Кашалін парушыў ён артыкул 257, датычны так званага злачынства на глебе нянавісці, які караецца трыма гадамі пазбаўлення волі і які дзяржавай праследуецца. Ён сказаў, што ўсе ўкраінцы — «гвалтаўнікі рэзуны». Усе ўкраінцы, таму што, па яго словах, «ні адзін з украінцаў не ўпарадкаваў гэтай справы». Я разумею, што таксама мой сябар, Богу духа павінен падляшскі ўкраінец са сваімі непаўналетнімі дзецьмі, які рашуча асуджае польска-ўкраінскую трагедыю, але нічога не ведае, як правільна павінна «разабрацца ў матэрыі», каб задаволіць Цэйроўскага, які, у сваю чаргу, як паляк, не ўпарадкаваў пытання Ядвабнага. «Дзеянне (Цэйроўскага) не месціцца ў рамках крымінальнага злачынства», — заявіла пракуратура — орган, які прадстаўляе Дзяржаву. Таму ці павінны беларусы (і ўсе іншыя народы і асяроддзі ў краіне) ужо пачаць баяцца?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Камісія ілюзій

У мінулы чацвер выбраўся я ў Варшаву на чарговае пасяджэнне Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей, прысвечанае рэалізацыі ў публічных медыях перадач для тых жа нацменаў у 2014-2017 гадах. Пад паняццем публічныя медыі разумеецца дзяржаўнае тэлебачанне і радыё ды іх як цэнтральныя, так і рэгіянальныя падраздзяленні. На сустрэчу ехаў я з даволі скептычнымі думкамі аб яе дзеяздольнасці, паколькі сеймавая камісія ўжо з добры дзясятак гадоў не з'яўляецца аніякім вырашальным месцам праблем, а толькі статыстычнай адзінкай польскага парламента. Адзінкай перш за ўсё патрэбнай дзеля справаздач перад рознымі ўнутрыдзяржаўнымі і сусветнымі ўстановамі наконт выконвання краёвых і міжнародных законаў датычных меншасцей, падпісаных і ратыфікаваных польскай дзяржавай. Таму логіка такіх пасяджэнняў мае больш-менш такі характар: парадак пасяджэння вынікае перш за ўсё з бюракратычных, абавязковых тэм, якія выносіцца з патрэбнай рэгулярнасцю перыядычных справаздач, запрашаюцца прадстаўнікі канкрэтных ведамстваў, якія расказваюць на дадзеную тэму, ідзе дыскусія і запісваюцца высновы. І на гэтым праблема завяршаецца і, згодна з традыцыяй, адсылаецца ў архіў — да наступнага пасяджэння. Ніхто не зацікаўлены ў вырашэнні канкрэтнай праблемы. Апрача адной, калі наперамену паслы ўрадавай кааліцыі любяць сабе пасварыцца з пасламі ад апазіцыі. І наадварот. Але толку для нацменаў з гэтага няма аніякага. Менавіта такая сітуацыя стала прычынай таго, што на пасяджэнні вышэйзгаданай камісіі самі прадстаўнікі нацыянальных меншасцей перасталі проста прыязджаць. Тут яшчэ трэба сказаць і пра абсурдныя гадзіны такіх сустрэч. Цяпер была гэта чатырнаццатая гадзіна, раней гадамі прызначалася шаснаццатая. Для людзей, раскінутых па ўсёй Польшчы, гэта складаная справа, калі трэба даехаць і яшчэ вярнуцца на другі канец краіны. А пасяджэнне звычайна трывае толькі... паўтары гадзіны. Дык нават мясцовым, значыць варшаўскім нацменшасцям, у сувязі з такім парадкам працы толькі напляваць на патрэбу якой-колечы прысутнасці ў гэтым зборышчы. Дакладна разумеючы, што ў бюракратычнай краіне любы чыноўнік адпаведнага міністэрства больш дзейсны чым абраннікі народа, рашаюцца шнырыць і абівацць парогі клеркаў і там неафіцыйна пра ўсё дамаўляцца, чымсьці дасягнуць нечага ў дэмакратычнай, публічнай дыскусіі. На афіцыйным пасяджэнні толькі ворагаў сабе нажывеш і прыбадзеш мянушку авантурыста-нацыяналіста. Таму, калі вядучы пасяджэнне камісіі са здзіўленнем сцвердзіў, што шкадуе адсутнасці большасці меншасцей прадстаўніцтва, дык я не стрымаўся і сказаў, што думаю пра выніковасць працы камісіі, якая абсалютна нічога не вырашае, а яе сябры-паслы звычайна актыўнасць у ёй зводзяць да падпісання спісу прысутных і маланкава знікаюць у англійскім стылі. Зразумела, каб не прапаў ганарар за абавязковую прысутнасць на пасяджэнні камісіі. Каб добра прасачыць і быць пільным, то справа прысутнасці паслоў моцна нацягнутая і статутная камісія павінна мець многа працы з такімі выпадкамі.

Зараз у камісіі васямнаццаць дэпутатаў. Мне заўсёды цікавіць, як нашы крыклівыя абаронцы — паслы з Падляшша змагаюцца за нашы інтарэсы? У яе складзе маем двух прадстаўнікоў з Падляшша — з Грамадзянскай платформы сеймавага ветэрана Роберта Тышкевіча і амбіцыйнага навічка Тамаша Цімашэвіча. Найбольш кароткі і аб'ектыўны адказ гучыць проста — аніяк. Добра строіцца ў пёры абаронцаў нацменаў на месцы і тут кукарэкаць фальшывыя песнапенні дзеля аднае мэты — атрымаць тыя нашы галасы, каб ізноў прапаўзці ў сеймавыя лавы. Зразумела, што нага ані аднаго, ані другога не пераступіла залы пасяджэнняў камісіі.

Хіба духам выслухоўвалі яны справаздачу прадстаўнікоў Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання, якія ў адчаі на нашу крытыку сцвердзілі, што гэта не Рада з'яўляецца... адрасатам заўваг, а толькі цэнтральныя і рэгіянальныя кіраўніцтвы медыяў ды Рада нацыянальных медыяў. А гэтага сеймавая камісія проста не заўважыла і на пасяджэнне іх не запрасіла, але абяцала выправіцца з тэмай цягам... бліжэйшага года.

**Яўген ВАПА**

**Леанід Галубовіч**

# Распісаць Квадрат Жыцця

## адзін неабходны верш як матчынае маўчанне

**Надзея АРТЫМОВІЧ**



Паэзія даецца чалавеку Звыш, як надзея на несмяротнасць, як няпэўная вера ў збудаванне, хаця б у сваім уяўленні, таго свету, у якім ён зможа рэалізаваць увесь свой духоўны патэнцыял. Мне цяжка ўявіць паэта за межамі гэтых магчымасцей (таленту) і намаганняў (разумовай і духоўнай працы). Безумоўна, што ў кожнага творцы — свой асобны свет. І найчасцей гэты свет засноўваецца на падмурку малой радзімы, бацькаўшчыны, якая паступова ўбірае ў сабе альбо абрастае тымі людзьмі і тымі рэчамі, без якіх паэту натхнёнае жыццё непамыснае. Але парастак паэтычнага дару ўсходзіць менавіта на гэтай глебе. І я не ведаю творцы, які выкляў бы сваю вотчыну.

У тых беларускіх паэтаў, якія па волі гісторыі былі адрынуты ад вялікай Радзімы на яе *крэсы*, гэта праяўляецца яшчэ з большай сілай. Бо тут Айчына для іх сцінаецца як пятля на шыі:

я ніколі ад цябе
не адыходзіў
так як ніколі
не перастаў пісаць
вершаў

яны трывалі ўва мне
пашыраліся
кожнага ранку
штораз мацней
зацiскалі на шыі
сваю пятлю

ад цябе няма
адвароту
ты як паралізатар
які прыносіць подых
смерці

я кахаю цябе.

І не так важна, пра каго насамрэч напісаны гэты канкрэтны верш „Паварот" Андрэя Сцепанюка, паэта з Беласточчыны, — пра паэзію, пра любімую жанчыну ці пра любую Айчыну. Ён — пра той свет, *выгадаваны* ім у сабе і вакол сябе, які з кожным разам усё цяжэй захоўваць у сваёй цэласнасці і самабытнасці. Ды, шчыра кажучы, і паэтам, што жывуць і твораць у самой Беларусі, не нашмат лягчэй. Мова, на ладан дыхаючы, яшчэ намагаецца іх вырātаваць і не пакінуць бязбацькавічамі...

Колькі слоў пра самога паэта. Андрэй Сцепанюк нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску-Падляшскім. У яго няпростая біяграфія як і ў большасці творцаў. Ён атрымаў дыплом беларускага філолага ў Варшаўскім універсітэце, працаваў выхавацелем, настаўнікам і бурмістрам. На сённяшні час з'яўляецца дырэктарам II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Пісаў і піша няшмат і не часта. Вядомасць прыйшла да яго пасля публікацыі верша „Вера", напісанага напрыканцы 1980-х гадоў, калі студэнцкі рух у Польшчы набіраў сілу. Пасля няспешна, час ад часу, друкаваўся ў тыднёвіку „Ніва", альманахах „Белавежа" і „Тэрмапілы"... У апошнія гады яго вершы пачалі з'яўляцца на старонках часопіса „Дзеяслоў", больш за тое, у 2015 годзе А. Сцепанюк за публікацыю ў гэтым часопісе намінаваўся на прэмію „Залаты апостраф". Кніга, пра якую тут вядзецца гаворка, — „Распісаны квадрат" — гэта першы яго зборнік вершаў. Літаратурны аб'ём напісанага як бы і невялікі, але ж мы ведаем розніцу паміж колькасцю выдадзенага і коштам творчага плёну...

Да ўсяго яшчэ ў нашай гаворцы немагчыма не звярнуць увагу на гэтую кнігу як на мастацкі паліграфічны праект — дарагі і каштоўны адначасна. Тут усё ўражвае — прадуманасць макета, арыгінальная супервокладка, адмысловая папера, вёрстка, набор, тканая перакідная закладка і фотаартэфакт унутры кнігі... (Дарэчы, графічны праект кніжкі падрыхтаваў Юрка Асеннік.) Я не думаю, што аўтар хацеў здзівіць чытача менавіта такой *багатай* фактурай выдання. Я мяркую, што якраз ён быў вельмі высокай думкі пра свайго чытача, таму і выйшаў да яго ва ўсёй сваёй *гжэчнасці* і эстэтычнай паважлівасці... Такія кніжкі, на жаль, з'яўляюцца вельмі рэдка, але менавіта яны аздабляюць паліцы нашых хатніх бібліятэк. Асабліва калі іх вартасць вызначаецца не толькі знешнім выглядам, але і ўнутранай мастацкай напоўненасцю, што, у пэўнай меры, можна сказаць і пра гэтую кніжку. Да таго ж, як мне здаецца, выдадзеныя асобнікі былі нешматлікімі і, хутчэй за ўсё, прызначаліся для блізкіх родзічаў, знаёмых, сяброў-таварышаў, калег-літаратараў ды асобных бібліятэк. Кажучы наўпрост, кніжка выдавалася не для гонару, а тым больш, не для ганарару, а дзеля ***беларускай*** чалавечай удзячнасці тым, каму яна будзе прэзентавана і падорана, хто меў да яе жыццёвыя дачыненні. Агулам пра гэтую кнігу трэба гаварыць найперш як пра занатаваны акт чалавечай духоўнасці і метафарычнае перажыванне ўласнага жыцця аўтара, а не вымяраць яе па планцы вышэйшай мастацкай вартасці. Можна сфармуляваць гэта зусім коратка — гэтая кніга сталася ***верша-сэнсам*** жыцця паэта А. Сцепанюка. Разумею, што тут са мной не ўсе пагодзяцца, але давайце да гэтага вернемся напрыканцы разгляду вершаванага зместу выдання. А пакуль, па ходу размовы, прыслухаемся да слоў Я. Вапы, які піша ва ўступе да кніжкі, што паэт *сваімі словамі і колерамі распісвае квадраты карціны, якая называецца жыццём. Падобныя геаметрычна-стылістычныя фігуры ёсць цалкам спелымі, другія яшчэ дапрацоўваюцца, на новыя прыйдзецца пачакаць*. Менавіта так, без усякага завышанага рытарычнага пафасу.

Прыглядзеўшыся да зместу, мы разумеем, што вопыт суровага штодзённага жыцця паэта гартаваў яго волю для пераадольвання ім перашкод на шляху да новага светастварэння. Простая сярмяжна-вясковая мова бацькоў ювелірна апрацоўвалася ім у культурніцкай і багемнай прасторы да ясных праяўленняў сэнсу. Разам з эстэтычным узбагачэннем мовы вырастаў і яе духоўны паэтычны плён. Жыццё, праламляючыся праз каравасць і непадатлівасць застылай і лакалізаванай фанемы, як святло праз прызму, вызнавала не толькі новы змест, але і новыя формы. У вершы „Літаратура", прысвечаным М. Андрасюку, чытаем:

На талерцы дзён
паэзія ляжыць непарушна
і апавядае
нямыя гісторыі
У паэзіі няма прозы
Проза ходзіць
брукаванымі дарогамі
з мазалямі на руках
крычыць горлам вар'ятаў
і іншых іншаземцаў
Проза ніколі не маўчыць
не зліваецца з бляскам вачэй
не чакае нечаканага
Проза не выкрадае ў паэзіі слоў
не хімерычнае
яна не ведае што такое хімера.

Зазнаўшы жыццёвы і літаратурны вопыт, А. Сцепанюк намысліў напісаць своеасаблівую *сямейную сагу* ў вершах. Гэткі зборны духоўны памінальнік *рассеяный* нацыі і ўласнага радаводнага дрэва... Зноў жа спашлёмся на Я. Вапу, які вылучыў у кніжцы калегі *вельмі відавочныя і яркія чатыры куты жыцця... чатыры творчыя кубікі-апірышча: Бацькі, Бельск-Падляшскі, Беларусь, Бог*.

Адразу ж варта ўзгадаць уражлівы цыкл з пяці вершаў пад назовам „Старыя жанчыны" (прысвечаны згасаючым родавым сувязям: Марыі малодшай, Марыі старэйшай, Кацярыне, Вользе, Веры). Іх лёсы выпісаны профільна, проста і ўвідна, як адлюстраванні ў настылым люстэрку, дзе толькі запацелася шкла ад узрушана-нервовага аўтарскага дыхання то праяснае, то затуманьвае блізкія вобразы-воблікі... Альбо, кажучы словамі Я. Вапы, тут *двайное адчуванне паэзіі пранізліва ўваходзіць у душу і памяць*.

Запамінальны на гэтым фоне верш-узгадка пра бацьку:

чужыя сабе
бацька з сынам
кожны паасобку
глядзяць у вокны
якія выходзяць
на панадворак
........................
у вачах толькі далечыня
таго што нябачнае
і непрадчувальнае
пачуцці засталіся звонку.

Менш філасафічны, але больш чуллівы верш прысвечаны маме:

пачуюцца словы маці
як дакор
навошта гэта сынок
навошта ты выязджаў
у іншы свет
навошта ты стаў
такім вядомым
навошта ты пачынаў
пісаць вершы
навошта табе гэтыя
лодзі варшавы мінскі і лонданы
навошта табе столькі пытанняў
на якія дагэтуль
не знайшоў адказаў
навошта табе гэта адкажы
я хацеў пайсці каб вярнуцца
мама
................................................
быць сабою сярод жывых

Роспач на жыццёвым раздарожжы — ад сыходу (забранасці) са сваёй зямлі да вяртання да яе... Паэт зведаў гнёт душы і цяжар цела, якімі даецца плён жыцця, таму мае права на свае жорсткія, але шчырыя высновы:

Баліць мне недасканаласць маіх рук
Пальцаў пяць плюс пяць
дзесяць толькі
А працы так многа.

Здаўна вядома, што пакуль, узняўшыся ад падмурка, не ўзвядзеш сцен, не ўсталюеш крокваў і не замацуеш вянца на зрубе свайго дома — ты не ўразумееш уласнага канчатковага выраку пад гэтым небам, не ўведаеш яго цаны і каштоўнасці — сваёй паразы і перамогі... У вершы „Блакітнае неба", прысвечаным адышоўшаму сябру і аднакласніку Сцяпану, паэт піша:

Калі пабудуеш сабе нябесны дом
прышлі пісьмо што табе ўжо добра
Паштовую марку з выявай сонца палажу
ў альбом.

Малая радзіма, месца нараджэння — тэма для А. Сцепанюка балючая і неад'-

працяг ☞ 11

# Гарадок

## — сардэчная экскурсія ў мінулае

**Да аднаўлення памяці, збірання па крышынцы памятак з мінулага мястэчка, якое было горадам, а цяпер яно сядзіба вясковай Гарадоцкай гміны — Гарадка з яго больш за паўтысячагадовай гісторыяй прылучыліся тут і старэйшыя, і моладзь. І жыхары сённяшнія, і выхадцы. А гісторыя гэтай шматканфесійнай і шматнацыянальнай мясціны — багатая, пакручастая і трагічная.**

Праводзілася адмысловая праграма «Школы дыялогу». Яе мэтай было павелічэнне адчувальнасці на пытанні звязаныя з тэматыкай гісторыі, традыцыі, культуры польскіх яўрэяў, а асабліва тых, што пражывалі ў Гарадку. У праекце прымалі ўдзел вучні першых класаў Гімназіі імя Роду Хадкевічаў: Сільвія Антановіч, Дам'ян Габец, Соня Сульжык, Габрыеля Ціунчык, Вікторыя Садоўская, Наталля Карлаў, Юлія Дэрынг, Бартламей Дзярманскі, Давід Болтуць, Вераніка Рудзінская, Міхал Гегель, Дзям'ян Мужын, Давід Антончык, Каміль Грыка, Адрыянна Антановіч, Караліна Ябланоўская, Вікторыя Кананчук, Дагмара Янушкевіч, Мая Дзянісік, Караліна Ляшчынская, Анэта Нос, Патрык Пухальскі, Севастыян Радэль, Каміль Кандрусік, Рыгор Казлоўскі, Міхал Лакель, Серафім Скаўронскі, Генрык Рудуха, Міхал Камінскі, Якуб Лісоўскі — усе са старадаўнік гарадоцкіх родаў. Апекаваліся імі Анна Кандратовіч, Ірэна Матысюк, Альжбета Раманчук і Аляксандр Карпюк. Вучні падчас майстар-класаў пазнавалі гісторыю, культуру, рэлігію яўрэяў. Шукалі інфармацыі пра жыццё ў даваенным Гарадку. На канец праекта падрыхтавалі экскурсію па Гарадку, у час якой прадставілі месцы і постаці звязаныя з гісторыяй даваенных яўрэяў. Удзельнічалі ў экскурсіі вучні, настаўнікі і жыхары Гарадоччыны. А 21 кастрычніка ў Гмінным цэнтры культуры імя Кастуся Каліноўскага на выставе здымкаў гарадчан сустрэлася шмат пакаленняў тых, для каго дарагая памяць пра былое мястэчка і яго людзей.

Першым этапам экскурсіі быў Асяродак здароўя ў Гарадку. Тут хлопцы расказалі пра доктара Льва Цукермана. Чарговым пунктам былі месцы, дзе да вайны знаходзіліся фабрыкі. Пасля ўдзельнікі экскурсіі перайшлі ў бок цяперашняй вуліцы Хадкевічаў. Спыніліся насупраць пошты. У гэтым месцы перад вайною быў дом дзядулі Адрыяна Гашчынскага, які ў мае прыехаў быў з Аргенціны ў Гарадок. Побач жыў Моталь Морэйн, у якога закахалася Люба Янушкевіч. Удзельнікі экскурсіі пачулі тут гісторыю кахання хрысцінска-яўрэйскай пары. З другога боку вуліцы знаходзілася адна з брам гета. Ідучы па вуліцы Хадкевіча мінаем месца, дзе быў рэстаран «У Лізы». Даходзім да вуліцы Цвінтарнай, па якой знаходзіўся рэстаран «У Фейгі» і адна са школ. Адна з дзяўчат, як пані Вейсбург, расказала пра тое, як выглядала даваенне школьніцтва ў Гарадку. Пасля ўдзельнікі экскурсіі зноў вярнуліся на вуліцу Хадкевічаў, да месца, дзе была аптэка Шулькляпэра. Чарговым пунктам быў дом Ёсефа Абраміцкага, адной з самых цікавых постацей даваеннага Гарадка. Насупраць яго дома, у парку, увасабляючыся ў базарных перакупшчыцы, дзяўчаты расказалі пра гандаль у Гарадку. З таго месца экскурсія падалася да месца, дзе была галоўная сінагога. Паход закончыўся ў школе, дзе ўдзельнікі вандроўкі па памятных месцах паглядзелі хвалюючы тэатр ценяў, які распавядаў пра генацыд гарадоцкіх яўрэяў...

Сучасныя гарадчане пайшлі на экскурсію слядамі людзей, якіх тут няма ад многіх гадоў — на экскурсію да месцаў, якія ад іх засталіся, да ўспамінаў, **крышынак памяці**.

Яўрэі ў Гарадку паявіліся ў познім сярэднявеччы, але першыя знойдзеныя гістарычныя запісы на тэму гарадоцкіх яўрэяў паходзяць з паловы XVII стагоддзя. Збігнеў Раманюк у працы «Zarys historii osadnictwa żydowskiego w Gródku» пісаў, што першы напамін аб функцыянаванні яўрэйскай гміны, інакш кагала, паходзіць з 1614 года. Інвентар з 1677 г. пералічваў між іншым: «школьны яўрэйскі пляц», значыць, ужо тады існавала сінагога. У 1799 г. на 472 грамадзян у Гарадку 93 было старазапаветных. Рамяством займалася 11 асоб. У Гарадку быў водны млын і шынок. У 1807 г., хоць лік жыхароў паменшаў, яўрэяў было 164. У 1847 г. гарадоцкая бажнічная акруга налічвала 454 яўрэяў. Наступіў далейшы развой яўрэйскага асадніцтва. У 1861 г., як піша Адам Дабронскі, Гарадок налічваў 3,2 тысячы жыхароў, у тым ліку больш за 2,5 тысяч яўрэяў. Існавалі тады два дамы малітвы і сінагога. Іншыя крыніцы інфармуюць, што ў 1878 г. было тут 1340, а ў 1897 г. аж 2513 яўрэяў (78,3%). Першыя перапісы насельніцтва ў адроджанай Польшчы расказвалі: у 1921 г. — 1508, а ў 1931 г. — 1385 было вернікаў Майсеевай веры. Даныя былі няпоўныя, паколькі яўрэяў было ў тры раз больш, як успамінаюць жыхары Гарадка...

Успаміналі доктара **Льва Цукермана.** Быў ён сярэдняга росту, круглы, светлатвары, гаваркі. Анатоль Кандрусік успамінаў яго як «залатую ручку». Людзі, якія яго ведалі, казалі, што быў добрым доктарам і добрым чалавекам. Перад кожным святам рыхтаваў для бедных яўрэяў кошыкі з дарамі. Да хворых ездзіў незалежна ад надвор'я. Не ад усіх браў заплату. Яго служанка, Маня Бароўская, успамінала, што Цукерман жыў разам з другой жонкай, дачкой Соняй, сынам Лялюсем і маці, якую называлі «Сараканожкай». 1 лістапада 1942 года доктара Цукермана разам з сям'ёй вывезлі ў Беласток. Праз некалькі тыдняў доктар вярнуўся ў ваколіцы Гарадка. На жаль, хтосьці данёс фашыстам, што Цукерманы хаваюцца ў лесе. Доктар і яго сям'я былі злоўлены і расстраляны, праўдападобна на яўрэйскім могільніку...

Прыгадваліся **фабрыкі** ў даваенным Гарадку. У XIX ст. яўрэі былі пераважна рабочымі. Большасць працавала ў ткальнях і прадзільнях. У 1857 г. у Гарадку было пяць трыкатажных фабрык. Адна з іх належала Срулю Віленчыку. Было ў ёй два станкі і дванаццаць машын. Выраблялі чорнае, зялёнае і шэрае сукно ды фланель. Гірш Лунскі і С. Віленчык пачалі сваю дзейнасць у 1867 г., у 1872 г. пусцілі ў рух свае фабрыкі І. Шапіра і С. Вайніловіч, а з 1887 г. — Б. Лунскі і Кроненбург. У 1872 г. найбольшыя трыкатажныя фабрыкі належалі Баруху Лунскаму, Егудзі Кроненбургу, Аарону Лынскаму, Янкелю Сельпіцкаму. Тады выраблялі на ручных станках сярэдня сарты сукна. Пачаў тады працу паравы млын Аарона Лунскага. У 1907 г. у Гарадку працавалі 22 трыкатажныя фабрыкі, у якіх мелі занятак 567 асоб. Перапісы з 1910 г. пералічваюць у Гарадку 13 трыкатажных прадпрыемстваў, гадавая прадукцыя якіх сягала каля 250 тысяч рублёў. Не ўсе яўрэйскія рабочыя мелі пастаянны занятак — наймалі іх на працу звычайна два разы ў год — перад святам Пасхі і Кучкамі. Пасля выбуху Першай сусветнай вайны амаль усе фабрыкі былі зруйнаваны. Іх уласнікі падаліся ў бежанства. У мястэчку працавалі толькі фанерная фабрыка Гершля Маліняка. Пасля польска-бальшавіцкай вайны ў 1922 г. працавала ў Гарадку 9 трыкатажных прадпрыемстваў, у тым ліку дзве механічныя ткальні сукна, тры ткальні і фабрыкі сукна, дзве аддзелачныя, дзве прадзільні, у якіх працавала каля 240 чалавек. У 1934 г. у Гарадку былі ўжо толькі чатыры малыя трыкатажныя прадпрыемствы з паравымі рухавікамі, дзе працавалі 125 рабочых...




■ Яны найбольш памятаюць пра даваенны Гарадок. Галіна Матэйчук (злева) памятае кожны дом і чалавека



■ На здымках – іхнія суседзі, як жывыя. Большасць здымкаў рабіў Ёсэф Абраміцкі

Соня Сульжык расказала пра каханне Любы Янушкевіч і Моталя Морэйна, ад імя Любы:

— Паходжу са звычайнай праваслаўнай гарадоцкай сям'і. Аднойчы вельмі закахалася ў яўрэя Моталя Морэйна. Памятаю як сёння, які ён быў стройны і прыгожы, калі я яго ўбачыла першы раз. Мы былі славутай гарадоцкай мешанай парай. Гэта не здаралася часта. У 1941 г. мы ўцяклі разам з рускімі. Нарадзілася нам дачушка. Пад Слонімам заспеў нас налёт. Я страціла прытомнасць, аглушаная выбухамі. Найбольш баялася за дачушку і за Моталя. На жаль, мой муж падчас бамбардзіроўкі згінуў. Я вярнулася ў Гарадок. На шчасце мною і дачкой заняліся беларусы з суседняй вёскі...

У 1942 г. у Гарадку было створана **гета**, у якім зачынілі яўрэяў. Ахоплівала яно большасць вуліц на Пясках, правабярэжнай частцы Гарадка. У яўрэяў забралі маёмасць, пазачыняліся крамы. Закрытая тэрыторыя гета ахоплівала тры галоўныя вуліцы — Фабрычную, Зарэчанскую (тады Берка Ёселевіча) і Кашаровую. Ад іншых вуліц аддзялялі яго дзве брамы. Адна знаходзілася пры вуліцы Фабрычнай (сёння гэта вуліца Паўночная), другая пры вуліцы Кашаровай. Рэштай граніц былі звычайныя агароджы, якіх жыхары гета не маглі перакрочыць. 1 лістапада 1942 года гарадоцкае гета ліквідавалі. Дзень раней сялянам з-пад Гарадка загадана было явіцца тут з фурманкамі. Яўрэі мусілі пакінуць усё, сядаць на фуры, на якіх мелі паехаць на вакзал. Сымхе Рудзі з сямігадовым сынам прабавалі ўцячы яшчэ перад выездам з Гарадка. Забілі іх ва ўласнай хаце. Сына Шмулевіча завезлі ў камендатуру і там застрэлілі. Падобны лёс сустрэў Хаіма Гурскага.

Гарадоцкіх яўрэяў пасялілі ў казармах X палка ўланаў у Беластоку. Трымалі іх там у нялюдскіх умовах. З Беластока вывезлі ў канцлагеры, большасць з іх загінула ў Трэблінцы. Успамінаў Яўген Матэйчук ліквідацыю гета: «Колькі крыку было, колькі плачу... Фашысты загадалі, каб 500 фур стала ў чатыры раніцы каля Фабрычнай вуліцы. Сагналі яўрэяў на тыя фуры. Многія прабавалі ўцячы, але Гарадок быў абстаўлены і фашысты касілі іх з кулямётаў»...

У даваенным Гарадку было некалькі школ — яўрэйская школа Тарбут, паўшэхная школа імя Л. Пэрэца — школа ідыш, польская школа для вучняў хрысціянскіх і яўрэйскіх, працаваў таксама дзіцячы садок. Жыхары аддавалі перавагу школе імя Пэрэца з-за дысцыпліны і выхаваўчай сістэмы. Школа Тарбут заходзілася на Пясках, недалёка млына і аптэкі Шулькляпэра. Атрымлівала яна фінансавую падтрымку з Амерыкі, падтрымлівалі яе таксама польскія ўлады. Дзейнічалі там школьны аркестр, драмгурток, паказваліся выставы прац вучняў, былі музычныя вечарыны. Настаўнікі карысталіся агульнай павагай — гэта была пані Морына ад рахункаў, Ш. Бротмаер ад габрэйскай мовы і настаўнікі якія прыбылі здалёк — Голяман Ніган, А. Гальман і пані Вейсберг. Пра пані Вейсберг падрыхтавала выказванне Наталля Карлаў: «Нашы вучні хадзілі ў дзесяцікласную школу па ўзору гімназіі. Настаўнікі дбалі пра вучняў індывідуальна. Тым дзецям з бяднейшых сем'яў гарантаваліся падручнікі, кніжкі. У школе дзейнічаў драмгурток пад кіраўніцтвам **Ёсэфа Абраміцкага**. Нашу школу зачынілі, таму што лічылі, што сімпатызуе яна з камуністычным рухам»...

Адной з самых цікавых постацей даваеннага Гарадка быў чалавек шматлікіх талентаў згаданы Ёсэф Абраміцкі. Працаваў ён цырульнікам — стрыг і брыў яўрэяў, беларусаў, палякаў. Ведаў ідыш, габрэйскую, польскую, беларускую і рускую мовы. Быў таксама фатографам. На сваіх здымках увекавечыў архітэктуру даваеннага Гарадка і яго жыхароў. Ягоныя здымкі знаходзяцца ў альбоме «Gródek w starej fotografii». Абраміцкі апекаваўся драмгуртком, які ставіў між іншым такія п'есы як «Голем», «Анна Карэніна», «Вялікі выйгрыш». Абраміцкі іграў на скрыпцы ў гарадоцкім аркестры. У час акупацыі апынуўся ў гета, пасля быў вывезены ў Асвенцім. Як адзін з нешматлікіх перажыў вайну і вярнуўся ў родную мясцовасць. Праз нейкі час перасяліўся ў Канаду...

**Яўрэйскі могільнік** у Гарадку знаходзіцца ў лесе, зараз за каталіцкім у паўночна-заходняй частцы мясцовасці. У час вайны быў знішчаны, а мацэвамі немцы ўзмацнялі дарогі і вуліцы. Да сёння захаваліся толькі фрагменты надмагілляў. У апошнія гады тэрыторыя могільніка была агароджана і добраўпарадкавана. Сучасны Гарадок дбае аб тых, каго ўжо тут няма...

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Са Скупава на Шпіцберген

**Мы, жывучы ў зоне памяркоўнага клімату, пасля зімы заўсёды тужым па леце і чакаем цёплых дзён. Нам цяжка паверыць, што людзі могуць і хочуць жыць у краінах, дзе цёплых дзён няма. А людзі ва ўсім свеце прывыкаюць да надвор'я, да асяроддзя, гарызонту і прыроды вакол сябе. І ўсюды па-рознаму.**

**Яшчэ ў лютым паразмаўляў я з Кшыштафам Ружанскім, народжаным у 1984 годзе ў Гдыні, які цяпер жыве ў Скупаве, пасярэдзіне Белавежскай пушчы. Гэта чалавек шматлікіх прафесій, дзеяч згуртавання „Чыгуначнае Падляшша", таксама капітан палярных караблёў, які дванаццаць разоў пабываў на Шпіцбергене.**



www.polityka.pl

— Шпіцберген гэта архіпелаг паміж Нарвегіяй і паўночным полюсам. На карце многа там белага — ледавіка, і многа вузкіх постглацыяльных заліваў — фіёрдаў. Пабачыць там можна імглу і крыху ільду — мала цікавае. Добрае надвор'е бывае рэдка, але ўлетку сонца свеціць кругласутачна — тады там палярны дзень.

На Шпіцбергене пабываў я звыш дзясятка разоў, працуючы капітанам малога падарожнага карабля для транспарту навуковых экспедыцый, часам турыстычных — з адзінага аэрадрома да даследчых станцый. Возіцца туды, напрыклад, даследчыкаў Кракаўскай Горна-металургічнай акадэміі ды бочкі з харчамі, якія ў зваротную дарогу будуць напоўнены камянямі. Возіцца таксама запас паліва, мачты для агароджвання лагераў ад мядзведзяў, на якіх пасля чапляецца дрот з гукавымі гранатамі.

**— Навошта пхацца ў такі рэгіён?**

— Ён цікавы навукоўцам, асабліва з Польшчы. Там можна пабачыць, напрыклад, як выглядала Польшча пасля адступлення ледавіка. Там на месцы можна пабачыць працэсы, якія фармавалі наш краявід, зароджванне глебы. Найперш паявіліся імхі. А найлепшая дэфініцыя — гэта месца, дзе грыбы большыя чым дрэвы. Вербы, бярозы маюць там усяго каля дзесяці сантыметраў.

Ледавік, гэта непаўторная з'ява для назірання, бо ўвесь час мяняецца, усе кускі ўвесь час абломваюцца, „целяцца". Навукоўцы расстаўляюць фотаапараты і што некалькі гадзін фіксуюць ландшафт.

Ледавік да нейкага моманту ляжыць на грунце, а частка, якая можа абарвацца, вісіць. І калі падае, тады ўзнікае вялікая хваля, якая небяспечная нават вялікаму караблю. У верхняй частцы знаходзіцца зона накаплення, там падае снег і там ледавік расце. Штораз больш ледавікоў ахоплены пастаянным назіраннем з размешчаных на жэрдках геадэзічных пазіцыянераў.

**— Колькі там людзей?**

— Улетку каля дзвюх-трох тысяч, зімою тысяча-паўтара. Ёсць там адзін нарвежскі горад з аэрадромам, універсітэтам, вугальнай шахтай, другі горад гэта толькі шахта, трэці — з комплексам даследчых станцый з розных краін. Ёсць два постсавецкія пасёлкі, у адным здабываецца вугаль, у другім даследчая станцыя, якая зараз становіцца турыстычным атракцыёнам.

**— З якіх краін там станцыі? Які там народ? Тэмпература?**

— Найбольш даследчых станцый з Польшчы: адна працуе круглы год і шэсць сезонных. Ніхто там не жыве пастаянна, сама больш некалькі гадоў. Ёсць там, апрача палякаў, нарвежцы, беларусы, расейцы, украінцы, армяне. Тэмпература ўлетку даходзіць да дваццаці градусаў цяпла, зімою дваццаць-трыццаць градусаў марозу. Там вельмі лагодны клімат ад даходзячага туды з Мексіканскага заліва Гальфстрыму.

**— Як Вы туды трапілі? Што Вас туды вабіць?**

— Мой бацька Ежы Ружанскі — будаўнік і ўладальнік яхты „Эльтанін" — працаваў там у 1970-х гадах ратаўнічым афіцэрам на ледаколе. У 1990-х гадах заўважыў, што не хапае там караблёў, якія забяспечвалі б тамашнія навуковыя базы. Ён узяў мяне з сабою, каб падвучыць справе і я гэтым захапіўся. Упершыню быў я там у 1995 годзе, бываю там два-тры месяцы, агулам дванаццаць разоў.



www.orla.pl

■ Сустрэча з Кшыштафам Ружанскім у Орлі

Што ўцягвае? Калі крыху там пабыць, то чалавек чуецца як у сябе. Я ў сябе ў Белавежскай пушчы, а найбольш у Арктыцы. Ёсць такія, якія прыляцяць, пойдуць у музей, на ледавік і ўжо шчаслівыя, могуць вяртацца. Ёсць там нерухомы ледавік, у якім няма расколін, і ён выконвае ролю гарадскога парку. Можна там пабачыць жанчын з малымі дзецьмі без падстархоўкі і турыстаў-скалалазаў з усім рыштункам.

**— А забавы? Ёсць там нешта асаблівае?**

— Летам там вельмі прыемна, у часе палярнага дня амаль не спіцца. Але палярная ноч цяжкая.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Як упрыгожвалі драўляныя хаты

У вёсках на Гайнаўшчыне ёсць шмат драўляных дамоў і драўляных сельскагаспадарчых будынкаў. Амаль усе яны паходзяць з XX стагоддзя, найбольш з міжваеннага перыяду ды з першых дзесяцігоддзяў пасля Другой сусветнай вайны, а толькі нешматлікія датуюцца XIX стагоддзем. Такая векавая структура будынкаў сфарміравалася ў выніку знішчэнняў у перыяд абедзвюх сусветных войнаў. Шмат старой пабудовы было разбурана ў 1914-1918 гадах. Апусцелыя вёскі, жыхароў якіх выселілі ў глыб Расіі, былі шматразова рабаваныя і паленыя. Калі «бежанцы» вярнуліся назад у свае вёскі, яны былі вымушаны адбудоўваць зруйнаваныя будынкі.

Сяляне Гайнаўшчыны мелі ўдоваль высакаякаснай драўніны з акружаючых лясоў і таму будавалі вялікія хаты. Яны іх таксама ўпрыгожвалі. Запаўнялі большыя плошчы сцен і шчытоў арнаментаванымі ўпрыгожаннямі. На шчытах прыбівалі шалёўку ў форме елачак, кубікаў ды зубчастых ліштваў-планак. Часта дошчачкі на шчытах укладалі пад рознымі вугламі. Сустракаем таксама аздобы шчыта выразаныя ў форме трохвугольніка або двух трохвугольнікаў у зубочкі па краях. У шчыце змяшчалі адно, два, тры а часамі чатыры невялічкія аконцы з багатай арнаментоўкай. У найстарэйшых будынках з XIX стагоддзя крыжуючыся дошкі па краях даху мелі зверху выразкі ў форме птушыных або конскіх галоў. Гэтая аздоба мела магічнае значэнне — мела адпуджваць злыя духі. Вяскоўцы забяспечвалі ад гніцця вуглы хат гладкімі дошкамі, а сцены — прыгожай шалёўкай.

Упрыгажэнне акон складалі надаконнікі, падаконнікі ды аканіцы. У надаконніках найчасцей можна сустрэць раслінныя матывы — гнуткія галінкі з лісточкамі, пераплеценыя з геаметрычнымі матывамі, аваламі, рознымі зубочкамі і круглымі або нерэгулярнымі адтулінамі-дзіркамі. Рэдка паяўляюцца зааморфныя матывы, а ўжо калі так дык найчасцей будуць гэта птушкі. Шалёўку прыбівалі вакол трох бакоў акна, а знізу прымацоўвалі падаконнік, па якім сцякае з акна вада. У ніжняй частцы мае ён найчасцей разьбу ў выглядзе карнізаў, кубікаў або дадатковай вузкай ліштвы. Ліштва пад акном складае найчасцей выключна прыгожую кампазіцыю разьбы па дрэве. Выступаюць тут элементы раслін, птушкі ды элементы арнаментаў. Дэкаратыўным дапаўненнем з'яўляюцца двухстворкавыя, філянговыя аканіцы.

У аздабленні вуглоў дамінавалі геаметрычныя фігуры. Прыбівалі прамавугольныя або рамбаідальныя дошчачкі, часта двух- або нават трохпластавыя. На вятроўках найчасцей выступае матыў сэрца або трохвугольніка, або яшчэ і прамавугольных зубкоў. Дамінуючай прыкметнай рысай усіх матываў упрыгожанняў з'яўляецца іх суровая сіметрыя. Вынікала яна з тэхнікі выконвання ўсіх карунак.

Ганак — таксама дэкаратыўная частка хаты. Архітэктурная разьба выступае каля калонак на падстрэшніку, шчыце і вятроўках. Гэтыя дэкаратыўныя элементы з'яўляюцца працягам агульнага ўпрыгожання хаты з такімі ж арнаментамі, ліштвамі і шалёўкамі.

Традыцыйнае архітэктурнае ўпрыгожванне захавалася ў вёсках, між іншым, у Вітаве, Войнаўцы, Вэрстоку (тут драўляная царква), Грабаўцы Краскоўшчыне і ў Старым Корніне (драўляная царква) Дубіцкай гміны, у Дубінах, Навасадах, Чыжыках і ў Трывежы Гайнаўскай гміны, у Трасцянцы Нарваўскай гміны ды ў Чыжах.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## „Так" на 50 гадоў

У Гайнаўскім доме культуры адбылося ўрачыстае ўручэнне медалёў „За шматгадовае шлюбнае супольнае жыццё" парам з Гайнаўкі. Была мастацкая частка і многа зычэнняў ад бургамістра Гайнаўкі Ежы Сірака і кіраўніка ЗАГСА Уладыслава Віткоўскага ды сем'яў юбіляраў.

Сімвалічныя медалі, прысвоеныя прэзідэнтам РП, атрымалі Ніна і Аляксей Білеўскія, Аляксандра і Казімір Бабкевічы, Ядвіга і Анрэй Дударонкі, Валянціна і Фёдар Дралі, Галіна і Павел Герасімюкі, Марыя і Пётр Гваі, Галіна і Уладыслаў Кучкі, Галена і Ян Казакі, Ірэна і Ян Лясоты, Валянціна і Леанід Мартысевічы, Люба і Віталь Міранчукі, Ніна і Андрэй Нэстэрукі, Марыя і Юрый Ляхоцкія, Вера і Рыгор Ахрымюкі, Марыя і Мікалай Рыгаровічы, Клаўдзія і Сяргей Сахарчукі, Яўгенія і Сцяпан Севярэнюкі, Ірэна і Васіль Смактуновічы, Галена і Уладзімір Сасноўскія, Марыя і Аляксандр Стоцкія, Валянціна і Васіль Шпількі, Анастасія і Людвік Студзінскія, Вольга і Ян Тамашукі ды Анна і Ян Варанецкія.

## Ліквідавалі крамы, то зніміце шыльды

Нараўчанская ГС ліквідавала прадуктовыя крамы ў Гушчэвіне і ў Семяноўцы ды апошнім часам — 15 кастрычніка гэтага года — у Новым Ляўкове. ГС намерваецца іх прадаць.

Зараз ідзе лістапад, а, між іншым, на франтавой сцяне крамы ў Новым Ляўкове ўсё віднее шыльда з надпісам „Sklep spożywczy". Крама быццам яшчэ працуе. Знадворку ля бакавой сцяны стаіць мінікладоўка з замком на хлеб і хлебабулачныя вырабы, у якую з самой раніцы прывозілі хлеб з пякарні і пакідалі яго для прадаўшчыцы пакуль яна прыйдзе на працу (так у нас практыкуецца ад пару гадоў). За крамай знаходзяцца загатоўленыя раней сухія дровы.

Калі тая ці іншая крама ГС не працуе, яго праўленне павінна зняць з іх і забраць шыльды. Не зводзьце людзей у зман. Ім зараз трэба падацца ў крамы ў суседнія вёскі, між іншым, у Старое Ляўкова (1-2 км), у Плянту (да яе 2,5-3 км) або ў Нараўку (6-7 км). Пажылым новаляўкоўцам, як самі кажуць, гэта далёка. **(яц)**

## Чаромхаўская традыцыя

Раённае аддзяленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе налічвае каля двух соцень членаў і актыўна ўдзельнічае ва ўсіх культурных мерапрыемствах. Своеасаблівай формай дзейнасці з'яўляюцца танцавальныя вечарыны. Нездарма кажуць, што жыццё пачынаецца пасля „шасцідзесяці". І гэта праўда. Хопіць заглянуць на забаву пенсіянераў. Багатае застолле (модны зараз імпрэзы з „уласным кошычкам"), песні, вясёлая сяброўская атмасфера. А калі зайграе аркестр, ногі самі рвуцца да танца. Гуляюць новаспечаныя пенсіянеры і пасівелыя бабулькі. Аб сеніёраў дбае мясцовы самаўрад. Штогод Гміны асяродак сацыяльнай дапамогі запрашае на традыцыйны Дзень сеніёра. Не толькі членаў ПСПіІ, але ўсё пенсіянерскае брацтва гміны. Разумеецца, што арганізатары пачастунак рыхтуюць без спіртнога. Але аб гэта клапоцяцца самі ўдзельнікі. Забіраюць з сабою ўласны кошычак. І гуляюць да ўпаду, пакуль ногі скачуць. Узорам Чаромхі-Станцыі традыцыю арганізаваць Дзень сеніёра пераняла Чаромха-Сяло. Такая імпрэза адбылася ў вясковай святліцы 8 кастрычніка. Арганізатарам з'явілася старшыня гуртка пенсіянераў Надзея Унучка. Удзельнічалі сеніёры, больш за сорак чалавек, з Бабровак, Чаромхі-Станцыі і мясцовыя. Пра музыку паклапаціліся Здзіслаў Закшэўскі і Мікалай Чаркаскі. Да спеву не трэба было запрашаць, хоць запяваламі былі госці з Бабровак. А Дзень сеніёра ў ГОК у Чаромсе-Станцыі арганізуецца 28 кастрычніка і арганізатары сардэчна ўсіх запрашаюць.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# Ніколі не здавайся і пісаў далей!

— Сёння ў нас на ўроку Віктар Швед. Найстарэйшы паэт, які жыве ў Польшчы, — пачала настаўніца Аліна Ваўранюк. — Ён піша вершы для дзяцей. Два дні таму паэт атрымаў вельмі сур'ёзную ўзнагароду — Маршалка Падляшскага ваяводства.

Першакласнікі добра ведалі, пра што ідзе мова. Два дні раней яны схадзілі з настаўніцай у Падляшскую оперу, каб на сцэне праспяваць песню «Мы першакласнікі» на словы лаўрэата.

А сёння яны маглі дакрануцца да статуэткі, пабачыць зблізку Пагоню, паслухаць вершаў і расказаў пра жыццё паэта. Госць, разам са сваёй жонкай Валянцінай, абдаравалі дзяцей кніжкай «Вясёлка», закладкамі са сваімі вершамі, кветкамі і салодкім.

Паэт расказаў пра дзяцінства і школьныя гады.

— Да чацвёртага года жыцця я не выходзіў з бацькоўскай хаты на панадворак, — пачаў сваё выступленне паэт. — Я хварэў на вочы. І калі ў чатыры гады пабачыў свет, ён мяне зачараваў. Усё даходзіла з такой інтэнсіўнасцю да майго сэрца і душы, што я не мог не стаць паэтам.

Вершы пачаў пісаць у школе ў Орлі. Першыя творы былі папольску. Спачатку настаўніца не паверыла і спытала: «Przyznaj się, bracie, skąd spisałeś ten wiersz!». Паэту зрабілася прыкра, ён пусціў слязу. Але не здаўся, далей пісаў. І тая настаўніца зразумела, што адбываецца. Яна папрасіла ў вучняў увагі і сказала перад цэлым класам: «Oto mamy wśród nas poetę Wiktora Szweda».

Спачатку пісаў на польскай мове, бо беларускай яшчэ не асвоіў. З роднай мовай пазнаёміўся ў сярэдняй школе ў Орлі, якая працавала ў 1939-1941 гадах. У той час быў скіраваны на алімпіяду дзіцячай творчасці. На жаль, гэтыя вершы недзе прапалі і не вярнуліся да яго.

— Мой дэбют адбыўся дзесяць гадоў да ўзнікнення «Нівы», — адзначыў паэт. — Гэта было ў 1946 годзе. Будучы вучнем, я стаў рэдактарам школьнай насценгазеты. У ёй змяшалі артыкулы і вершы вучняў. Настаўнік сказаў, што мой почырк найбольш яму падабаецца і я перапісваў творы іншых вучняў уручную. Калі закрылі маю школу, настаўнік папрасіў, каб я перахаваў у хаце гэтыя насценныя газеты. Там было 8 маіх вершаў. Яны па сёння захаваліся ў маім архіве, — адзначыў паэт.

Віктар Швед напісаў тысячы вершаў для дзяцей. Большасць з іх цягам паўстагоддзя друкаваліся на старонках «Зоркі».



На сустрэчу з першакласнікамі паэт прынёс падарунак ад нашай рэдакцыі — герб Пагоню з прысвячэннем: *Віктару Шведу за вернасць усё жыццё свайму паэтычнаму клічу «Я беларус», надрукаванаму на старонках «Нівы».*

Першакласнікі дакраналіся да падарунка і між сабой жыва тлумачылі:

— To Pogoń, Пагоня герб Беларусі!

Яны ведалі таксама, чаму спадарства Віктар і Валянціна Шведы

падарылі іх настаўніцы бел-чырвона-белыя ружы. У падзяцы для гасцей яны яшчэ раз праспявалі Шведавы песні: «Мы першакласнікі» і «Нам сем гадоў». І гэтак здзейснілася вялікая мара паэта:

— Я пісаў усё жыццё для дзяцей, таму што хацеў, каб мае вершы папаўнялі ўрокі роднай беларускай мовы! — сказаў дастойны лаўрэат.

Мы таксама далучаемся да пажаданняў і спяваем вам: *Многія леты!*

**Зорка**
**Фота: Ганны Кандрацюк**





## расквецім гісторыю Беларусі

## Рэспубліка Беларусь у 1991 годзе

Калі ў 1991 годзе Савецкі Саюз спыніў існаванне, на мапе свету паўстала новая дзяржава — Рэспубліка Беларусь. З уласнай дэмакратычнай канстытуцыяй, шматпартыйным парламентам, баяздольным войскам, уласнай фінансавай сістэмай і дзяржаўнай беларускай мовай. З гербам Пагоня, 700-гадовым наступнікам галоўнага сімвала Вялікага Княства Літоўскага, і вытрыманым у колерах герба бел-чырвона-белым сцягам.



(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Кот і мышы

Мышы адправілі пасланцоў да ката і кажуць:
— Што мы такое зрабілі, што ты нас усё праследуеш? Мы ж не ядзім твайго хлеба.
А ён на гэта:
— Вы добра ведаеце, што людзі кормяць катоў, каб мы пільнавалі ад вас засекі са збожжам. Не будзеце туды лезці — гуляйце колькі заўгодна. Я не буду мяшаць!
У доказ, што стрымае абяцанку, кот прыклаў лапку да галавы.
Мышы асмеліліся і пачалі збіраць раскінутыя на зямлі зярняты. А кот кінуўся ды схапіў многіх мышэй. І яны загаласілі:
— Ці ты не пакляўся перад хвілінай, што прымкнеш вока на ўсё, што адбываецца са збожжам за засекам?
— Нічога не прысягаў, — адказаў кот, — я толькі дакрануўся па старой звычцы лапкай да сваёй галавы.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 45-17

**Шпакоўня чырвоная прыбіта**
**І ўдзень, і ўночы яна адкрыта.**
**І каляровыя шпакі**
**Лятуць з яе ва ўсе бакі...**
**П....... с......**
**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 12 лістапада 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 42: люстра. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Дам'ян Карнілюк, Ася Нікіцюк, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 45-17




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 41-17:** Пояс, грош, зона, шына, суп, лак, гук, ар, гара, Алан, гаспадар. Ранг, шар, язык, гоп, нага, урад, скала, ар, шаптун.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Магдалена Якубюк, Дам'ян Карнілюк і Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## БЫЧОК

Ў першы клас пайшоў бычок.
Стаў бычок наш першачок.
Чутна ў статку:
– Першакласны
Наш бычок
Вучанічок!
– Недарма праводзіць час:
Так умела стаў мычаць!
– Трэба ведаць шмат яму, –
Ўсё пытаецца:
„Чаму-у-у!"

## БУДАЎНІКІ

Каля сцяжынкі –
Мурашынае шашы
Будуюць дом
Шматпавярховы
Мурашы.
Так дзень за днём
Яны шчыруюць ад душы,
Бо мурашы
Не хочуць жыць у шалашы.



■ «Верасы»



■ «Чыжавяне»

# Асеннія сустрэчы

## з беларускім фальклорам у Чыжоўскай гміне

**У Чыжоўскай гміне здаўна арганізуюць Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам. Пастаянная музычная імпрэза ладзілася ў Чыжах, Кленіках, Шастакове, Збучы і Курашаве. З-за ўдзелу ў сустрэчах калектываў з Беларусі, Літвы, Украіны і Венгрыі сталі яны міжнародным мерапрыемствам. У час XXIV Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам 22 кастрычніка ў святліцы з Чыжах запрэзентаваліся «Верасы», «Чыжавяне» і «Чайкі» з Чыжоўскай гміны, беларускія калектывы з Беласточчыны і Народны ансамбль беларускай музыкі і песні «Гасцінец» з Гродна.**

— Мы ганарымся, што ў нашай гміне арганізуем многа мерапрыемстваў, падчас якіх прэзентуецца беларускі музычны рэпертуар. Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам з'яўляюцца штогадовым падвядзеннем вынікаў арганізавання музычных імпрэз. Праз асеннія сустрэчы напамінаем хто мы ёсць. Мы прадстаўляем беларускую меншасць і для нас важна, каб падчас такіх мерапрыемстваў напамінаць пра нашу тоеснасць, — сказаў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк. — У гэтым годзе адбыўся беларускі фэст «Купалінка» ў Ляневе, а супольна з Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы быў арганізаваны ў Лядах белфэст з цыкла «І там жывуць людзі». У супрацы Чыжоўскай і Арлянскай гмін паміж Морам і Крывятычамі быў наладжаны беларускі фэст «На мяжы». Мясцовая група дзейнасці з Гайнаўкі ў супрацы з Чыжоўскай гмінай арганізавала яшчэ музычны фэст у Курашаве.

На канцэрт беларускага фальклору прыбылі ў Чыжы прадстаўнікі Арлянскай гміны на чале са старшынёю Рады Аляксандрам Клінам і дырэктарам Гміннага асяродка культуры Аннай Несцярук. Прадстаўнікамі Чыжоўскай гміны ў ліку гасцей мерапрыемства былі старшыня Рады Чыжоўскай гміны Хрысціня Гаўрылюк, настаяцель Успенскага прыхода ў Чыжах протаіерэй Юрый Кулік, паявтовыя і гмінныя радныя ды солтысы паасобных вёсак. Іх прозвішчы пералічыла Марыёля Герман-Петручук, якая вяла мерапрыемства на беларускай мове.

— Побач прэзентавання аўтэнтычнага беларускага фальклору, сёння выступаюць калектывы з апрацаваным фальклорам і сучаснымі беларускімі песнямі, якія асабліва падабаюцца моладзі, — сказаў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк.

Першым цікава выступіў калектыў «Верасы» з Чыжоўскай гміны, які працуе пад кіраўніцтвам вопытнай былой настаўніцы музыкі Ірэны Лукашук. Пачынаў ён дзейнічаць як калектыў Саюза пенсіянераў і інвалідаў Чыжоўскай гміны, але зараз з пенсіянерамі выступаюць таксама маладыя асобы з-па-за Чыжоўскай гміны.

— Яцак Дружба састаўляе нам акампанемент на акардэоне. Мы спяваем нашы мясцовыя песні, між іншым са спеўнікаў Сцяпана Копы. Пашыраем таксама рэпертуар творамі на беларускай літаратурнай мове, — заявіла мастацкі кіраўнік «Верасоў» Ірэна Лукашук.

Сабраных захапілі «Чыжавяне» з Чыжоў, якія на высокім мастацкім узроўні запрэзентавалі народныя беларускія песні.

— Я займаюся з «Чыжавянамі» з 2003 года, стараюся падбіраць арыгінальныя беларускія народныя песні, якія апрацоўваю пад наш калектыў. Некаторыя робяць пераклады ўкраінскіх або расійскіх песень, але гэта не аддае клімату беларускай вёскі. Складана таксама зрабіць добры пераклад, каб не сапсаваць песню. Рыхтуемся ўжо да фестывалю «Беларуская песня» — я ўжо падабраў чатыры новыя непаўторныя беларускія народныя творы. Калі паглядзець на «Чыжавян» праз прызму рэпертуару, то мы разгарнулі свае магчымасці і неўзабаве будзем спяваць на пяць галасоў. Гэта складана, а нашы спевакі апасаюцца такога спеву, але трэба ісці ўперад і развучваць штораз больш складаны рэпертуар. Маім музычным настаўнікам быў Аркадзій Карповіч, мастацкі кіраўнік ансамбля «Гасцінец» з Гродна. Я папрасіў яго выступіць з калектывам падчас сустрэч з беларускім фальклорам у Чыжах. Ён згадзіўся і сёння славуты калектыў, які ўмее цудоўна заспяваць нават без музычнага акампанементу, запрэзентуецца перад чыжоўскай публікай, — сказаў мастацкі кіраўнік «Чыжавян» Юра Ганевіч, які даязджае ў Чыжы на рэпетыцыі і выступы з Гродна.

Народны ансамбль беларускай музыкі і песні «Гасцінец» з Гродна захапіў публіку спевам, музыкай капэлы і мастацтвам танца. Ансамбль дзейнічае пры Гарадскім доме культуры ў Гродне з 1993 года. Выступаюць у ім настаўнікі, студэнты і чыноўнікі. Выконвае беларускія народныя песні і танцы пад акампанемент народных інструментаў (жанчыны з калектыву «Гасцінец» запрашалі да танцаў мужчын з публікі). Такі менавіта рэпертуар ансамбль займальна запрэзентаваў у Чыжах.

— Для жыхароў нашай гміны выступ «Гасцінца» гэта непасрэдны кантакт з беларускай музыкай, выкананай на вельмі высокім прафесійным узроўні, магчымасць захапляцца мілагучнасцю беларускіх народных песень, — заявіў дырэктар ГАК Юры Якімюк.

— Мы ў Чыжах выступаем другі раз. Нам падабаецца атмасфера асенніх сустрэч, калі калектывы прэзентуюць беларускія песні, якія таксама састаўляюць наш рэпертуар. Ёсць магчымасць пачуць новыя творы, якіх мы раней не чулі, і паразмаўляць з членамі іншых калектываў. Супольныя канцэрты гэта стымул для нашых спевакоў да пазнейшых рэпетыцый і ўдзелу ў дзейнасці нашага гурту. Наш калектыў «Ручаёк» састаўляюць перш за ўсё асобы сярэдняга ўзросту, але прыходзяць таксама малодшыя асобы і гэта стварае перспектыву на даўжэйшую дзейнасць, — распавёў Марк Зубрыцкі, мастацкі кіраўнік «Ручайка» з Белавежы.

З беларускімі танцамі, гульнямі і песнямі займальна запрэзентаваліся дзеткі з калектыву «Росы» Вясковага дома культуры ў Рыбалах, якіх падрыхтавала Лідзія Мартынюк.

— У Рыбалах яшчэ ёсць многа школьнікаў, якія хочуць выступаць з беларускім словам. Сёння мы прэзентуем даўнія беларускія танцы і гульні, якімі весяліліся дзеткі і моладзь у нашых вёсках. Разам са спевам мы паказваем абрадавую сцэнку, якая паказвае, як адпачывалі маладыя вяскоўцы пасля працы ў часы, калі не было радыё, тэлебачання і электронных сродкаў масавай інфармацыі, — сказала Лідзія Мартынюк, апякунка дзіцячага калектыву.



У вакальнай групе з Мора выступіла шэсць асоб. Калектыў дзейнічае нядоўга, а з лета гэтага года стаў з ім займацца Юра Ганевіч, музычны кіраўнік «Чыжавян».

— Юра Ганевіч стаў састаўляць нам акампанемент на акардэоне і дапамагаць правільна спяваць. Мы — самавукі, а ў Юры прафесійная музычная адукацыя. Нам намнога лягчэй стала спяваць, ужо ведаем якіх нам пазбягаць памылак. Выконваем такія песні, якія спяваліся ў нашых вёсках у шасцідзясятыя і сямідзясятыя гады. Нас тут называюць вакальнай групай, бо мы яшчэ афіцыйна не прынялі назвы «Чайкі», як сябе называем, — гаварыла Вера Балтрамюк.

Беларускі калектыў «Арляне», які найдаўжэй, бо ўжо больш за 70 гадоў, выступае з беларускімі народнымі песнямі і аўтарскімі творамі, дастойна запрэзентаваўся перад чыжоўскай публікай.

— Час ідзе і ўжо чакаем, калі будзем святкаваць 75-годдзе дзейнасці калектыву «Арляне», з якім я ўжо займаюся больш за 30 гадоў. Пазней я стаў апекаваца таксама «Васілёчкамі» і стараюся развучваць з імі штораз новы беларускі рэпертуар. Калі Арлянская і Чыжоўская гміны сталі сябраваць мы сталі прыязджаць сюды і спяваць. Мы рады сённяшняму выступу, — сказаў Мікола Фадзін, мастацкі кіраўнік «Арлян».

Калектыў «Метро» з Гайнаўкі запрэзентаваў маладзёжную музыку. 29 кастрычніка «Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам» мелі адбыцца яшчэ ў Кленіках.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Пра Францыска Скарыну

**У днях 26-28 кастрычніка адбылася трансгранічная навуковая канферэнцыя па тэме „Францыск Скарына — жыццё, творчасць, успрыманне; у 500-ю гадавіну выдання беларускай Бібліі: 1517-2017”. Канфенрэнцыю ладзілі навуковыя ўстановы Беластока, Мінска і Гродна; першая яе частка, 26 кастрычніка, адбылася ў Падляшскай ксёнжніцы ў Беластоку, другая — у Каралеўскім замку ў Гродне.**

Spiritus movens гэтай неардынарнай канферэнцыі была Святлана Мусіенка з Гродна. Ва ўводным слове сказала яна:

— Сёння адзначаем 500-годдзе кнігадрукавання па-беларуску. Мы зараз маем яе вялікасць кніжку, якую чытаем сёння, якую кахаем сёння, і якую стварыў у арэале ўсходнеславянскіх краін Францыск Скарына. Я лічу, што мы зрабілі вельмі добра, што канферэнцыя будзе праходзіць у вялікім-вялікім горадзе Беластоку. Чаму ён вялікі? А таму, што ён амаль на мяжы Польшчы і Беларусі. І ў Гродне таксама, былой сталіцы Польшчы і вельмі значным горадзе Беларусі, які стаіць на рэчцы Нёман; і там у Новым замку будзе прадаўжэнне гэтай канферэнцыі.

У сваім жа навуковым дакладзе, з вельмі асабістым ухілам, запрэзентвала яна постаць беларускага першадрукара:

— Скарына выводзіўся з Полацка, а ў тую эпоху — канца 15-га стагоддзя, Полацк быў адным з галоўных гарадоў не толькі Беларусі, але і ўсёй Еўропы. Ён быў распалажаны на беразе вялікай ракі на скрыжаванні Усходу з Захадам, дзе вiравала жыццё. І Францыск Скарына з самага дзяцінства паглынаў у сябе тую культуру, якую прынасілі людзі з іншых краін. Калі ж гаварыць пра Францыска Скарыну, варта падаць чатыры галоўныя даныя: нараджэнне, смерць, імя і прозвішча. І тут маем адразу чатыры пытанні: не ведаем, у каторым годзе ён нарадзіўся, бо пры даце нараджэння заўсёды стаіць пытальнік. Смерць — 1551 год — таксама з пытальнікам. Прозвішча — Скарына ці Скарыніч; у беларускім гістарычным даведніку маем гэтыя два прозвішчы; другое прозвішча спатыкаем толькі адзін раз — і ўсё ж такі пытанне. І чацвёртае: Георгі Скарына ці Францыск. На апошняе пытанне маем адказ, але невядома, ці ён канчаткова правільны. Адукацыю Скарына пачаў у Полацку ды, відавочна, у Вільні. Ужо з дзяцінства вывучаў латынь ды старажытную культуру. Быў сынам Лукаша Скарыны, які быў камерсантам, значыць даволі багатым чалавекам. Мог ён пайсці бацькоўскім следам і заняцца гандлем. Але ён быў чалавекам новай эпохі. Цяжка сказаць, што ў 15-м стагоддзі ў Беларусь, ці нават у Польшчу, дайшло Адраджэнне. Ішла сур'ёзная барацьба ў навуковых колах, свецкіх і рэлігійных паміж сярэдневяковай традыцыяй і новым часам. Я хачу прыгадаць цытаваных на розны лад Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса, якія вельмі трапна сказалі пра тую эпоху: з аднаго боку ўзбуджэнне новага жыцця, а з другога боку яшчэ дзейнічае інквізіцыя. І ў маладыя Скарынавы гады здараецца жудасны прыклад спалення на кастры Яна Гуса. Скарына яшчэ не ведае, што апынецца ў Празе і там будзе пачынаць сваё кнігадрукаванне. Дадам, што Скарына змоладу ўключыўся і ў палітычнае змаганне, бо ж тады праводзіліся захады па далучэнні праваслаўя пад вяршэнства папы. У тую эпоху адбывалася таксама змаганне за цэнтралізацыю невялікіх дзяржаў у большыя — прыкладамі Францыя і Масковія. Скарына быў не толькі сведкам, але і ўдзельнікам таго змагання. Мне на думку прыходзіць параўнанне Францыска Скарыны і Дантэ Алігʼеры. Італія 13-14-га стагоддзяў выходзіць на шлях Адраджэння. І маем магутную фігуру, якая падводзіла Сярэдневякоўе і адкрывала Адраджэнне. Прыгадайма, што Дантэ сказаў пра мову: „Латынь мёртвая, а нацыянальныя мовы і гаворкі з'яўляюцца тым хлебам, які ўсіх насыціць, гэта сонца, якое ўсім свеціць і ўсіх грэе”. Ці ж не такую ж місію выканаў Францыск Скарына ва ўсходнеславянскіх краінах? Ён заўсёды называў сябе беларусам. Першы мастацкі твор пра Скарыну паказаўся ў Маскве ў 1881 годзе. Мне здаецца, што ва ўсходніх славян вельмі спецыфічная памяць пра сваіх выдатных людзей. Пра Дантэ помніць усё чалавецтва. Пра Скарыну, хаця для ўсходніх славян, але не толькі, меў ён агромныя заслугі, забыта яго імя на амаль 450 гадоў. І мне здаецца, што ён перажыў тры віды адраджэння. І тое адраджэнне кранала і ягонае асабістае жыццё, і працэс фармавання ўсходніх краін, усведамленне ім таго, што ён выводзіцца з тых краін, дзе не толькі свеціць сонца, але і падае снег, дзе прыгожая прырода і прыгожая рака; Полацк — слаўны горад. Францыск Скарына падаўся ў Кракаў. Чаму ў Кракаў? Чаму адразу не ў Падую? Ён жа выдатна ведаў латынь. Кракаўскі ўніверсітэт быў адной з дзвюх такіх устаноў у славянскіх краінах; быў яшчэ ўніверсітэт у Празе — і з ім звяжацца Францыск Скарына. Прыбыў у Кракаў як чалавек Усходу. У час экзаменаў прыор спытаў Скарыну, чаго ён хоча, а ён адказаў, што прыбыў дзеля навукі. Францыск Скарына штудзіраваў два гады ў кракаўскім універсітэце. Цалкам верагодна, што Скарына можа і не займаўся касмічнымі праблемамі, але быў блізка Мікалая Каперніка... Пра сваіх вялікіх славяне часта забываюць. Першае адраджэнне памяці пра Скарыну пачынаецца ў царскай Расіі ў пецярбургскім універсітэце, а першая манаграфія, якая стала сенсацыяй, была аўтарства прафесара Уладзімірава, які знайшоў пра Скарыну ўсё, што магчыма было знайсці. А да таго была праца камісій пры маскоўскім і пецярбургскім універсітэтах, дзе таксама былі знойдзены старыя рукапісы пра дзейнасць Скарыны. Але была гэта царская Расія, Беларусь тады называлася Северо-Западным краем і таму працаўнікі час у XIX стагоддзі, да 1917 года, Скарына лічыўся расійскім вучоным. Ды не толькі забываюць, але часам прыпісваюць дасягненні аднаго выдатнага чалавека іншаму. Шмат часу панавала меркаванне, што першыя кнігі на ўсходнеславянскім абшары друкаваў Іван Фёдараў, а пасля Пётр Мсціславец; на самой справе быў гэта Скарына. Другі перыяд адраджэння памяці пра Скарыну, гэта Савецкая Беларусь — 450 гадоў з дня пачатку беларускага кнігадрукавання; быў гэта 1967 год. Тады паказалася першая аповесць „Георгій Скарына”, тады адбылося агульнасавецкае шанаванне памяці Скарыны, быў зняты першы фільм пра Скарыну. Але ўвесь час называлі яго Георгіем Скарынам. І цяпер хачу прыпомніць, што калі Скарына здаваў уступны экзамен у Кракаве і здзівіў усіх сваімі ведамі, то яму прыгадалі, што ўніверсітэт адкрыты дзецям каталіцкага веравызнання, бо кіраўніцтва выводзіцца з Рыма. Скарына, паводле аўтараў аповесці, адказаў, што даведаўся пра гэта толькі днём раней. Аднак яго прынялі, да таго ж бясплатна. Ён не пагадзіўся прыняць каталіцтва, але згадзіўся змяніць сваё імя — прыняў ён імя Францыска з Асізі, святога Каталіцкага касцёла. Пасля патаемна, як падае аповесць, пакідае Кракаў і вяртаецца на радзіму. Меў ён шмат прыхільнікаў, мецэнатаў, якія дапамаглі яму зладзіць друкарню. Але зноў вабіць яго Заходняя Еўропа, бо ў Венецыі выдаюць Біблію, бо ў Празе друкуюць кнігі, а тут яшчэ яго не разумеюць... Падуанскі ўніверсітэт быў другім пасля Балонскага. І ён там зноў здзіўляе сваімі ведамі, не толькі ў галіне філасофіі. Там цягам двух гадоў становіцца доктарам медыцынскіх навук. Прапануюць яму астацца ў Падуі, але ён адмаўляе каб вярнуцца дадому, адказваючы, што Бог стварыў чалавека так, што ён прывязаны да сваёй зямлі. Калі вярнуўся ў Вільню, зноў пачынае друкаваць, прабуе зацікавіць людзей кнігай. Але марыць аб Празе, дзе трывала традыцыя Яна Гуса. Ён стварае новыя літаратурныя жанры: прадмову, пасляслоўе, каментарыі. Але ён стварыў таксама чатыры віды эсэ — 50 гадоў раней чым Мішэль Мантэнь, які свае эсэ выдаў у 1585 годзе. Біблія Францыска Скарыны выдавалася ў 1520-х і 1530-х гадах. Прабаваў выдаваць свае кнігі і ў Маскве, але там не атрымалася. Іван Фёдараў быў другім — першым быў Скарына. Трэці час адраджэння памяці аб Скарыне гэта нашы дні. І пра Скарыну гаворыць цэлы свет. ЮНЕСКА абʼяўляе 2017 год годам Скарыны. Дадам яшчэ, што Скарына выдаў 23 кнігі Святога Пісання — Старога Запавету. Але ён выдаў яшчэ Псалтыр. Заўважу яшчэ і трэці напрамак зацікаўленасці Скарыны — ён сустракаўся з Марцінам Лютэрам — першым рэфарматарам хрысціянскай рэлігіі. Скарына захаваў аднак праваслаўе. Вернемся да Дантэ, які так пісаў, што ён шануе той народ, з якога выводзіцца.




Гэтак пра Скарыну гаварыла прафесар Святлана Мусіенка з Гродна, падмацоўваючыся літаратурнымі вобразамі нашага першадрукара. Апошнія выступоўцы не краналі непасрэдна Скарынінай біяграфіі, яны ў большасці засяродзіліся на прысутнасці Скарынінай спадчыны ў літаратуры.

Складана мне тут расказваць пра ўсе выступленні; прысутнічаў жа я толькі ў беластоцкай дзеі гэтай неардынарнай канферэнцыі, якая адбылася на Скарыніным шляху — у Беластоку і Гродне — якія паміж Полацкам, Вільняй, Кракавам, Прагай... Хачу толькі вылучыць яшчэ два выступленні. Эдмунд Ярмусік з Гродна расказаў пра дзейнасць менавіта ў Гродне францысканца Максімільяна Кольбэ, які, як калісь Францыск Скарына, развіваў друкарскую справу ў духоўных мэтах. А Ірына Багдановіч з Мінска расказала пра навеяны Бібліяй паэтычны цыкл Рыгора Барадуліна „Трыкірый”.

Францыск Скарына пакінуў нам неразгаданыя сакрэты, якія складана раскрыць. Але трэба помніць, што быў ён сынам камерсанта і мабыць з роднага дому над паўнаводнай ракой вынес умеласць жыццёвага плаву, таго камерсанцкага мастацтва, якое патрабуе часам саступіць, а часам цвёрда стаяць на сваіх пазіцыях. Магчыма тут менавіта сакрэт ягонага двайнога імені, а магчыма таксама, што гэты назоўны дуалізм быў адбіткам тае новае эпохі, з якой плавам забраўся ў жыццёвае падарожжа Георгій ці Францыск Скарына. І ён, як Хрыстафор Калумб, адкрыў нам 6 жніўня 1517 года новы мацярык — Яе Вялікасць Друкаваную Кнігу.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Засталіся адно ўспаміны (25)

З Кузавы падаваліся мы ў раён Кляшчэлеўскай гміны, затым у Бельскі павет. У Дашы заязджалі пазменна. Прысутнасць на сеансах была памяркоўнай ды і сяляне ненайлепш ставіліся да кіношнікаў. Кінасеансы арганізавалі ў школе, на калідоры. З настаўнікаў запамятаў Надзю Бандарук, ураджэнку Вулькі-Нурэцкай. Пасля выйшла замуж за лесніка Янку Малмышку. Яшчэ прыпамінаецца мне настаўнік Ігнацы з Кляшчэляў, але прозвішча вылецела з памяці. Кіраўніком, як не памыляюся, быў Кісялеўскі...

Цяжка зараз успамінаць мінулае больш чым пяцідзесяцігадовай даўнасці. Таму намагаюся кантактавацца са старажыламі згаданай вёскі і супольна ажыўляць мінулыя будні. У Сакі заязджалі штомесячна. Кінасеансы ставілі ў школе. Кіраўніком быў Міхась Майстровіч. Тут настаўнічала яго жонка Валя. З кіраўніком Майстровічам у нас былі сяброўскія кантакты, таму не было праблемы з арганізаваннем ранішнікаў. Настаўнікі дбалі пра тое, каб усе дзеткі ішлі ў кіно. Таму, хто не меў грошай на білет, настаўнікі пазычалі.

На вечаровых сеансах мы мелі сталых гледачоў. Да гэтых можна залічыць трактарыста Славіка з жонкаю, якія жылі побач школы. Калі б яны не прыходзілі ў кіно, заўжды прыносілі нам яблыкі. Міхал Адамец і яго брат Ян не прапусцілі ніводнага сеанса. Міхал быў вядомай персонай у наваколлі, адзін тэрмін (1969-1972) быў паслом Сейма ПНР V склікання. Меў ён механічную майстэрню, узначальваў гурток паляўнічых. Наш кінамеханік Чарнянін з ім дружыў, заходзіў на абеды і начлегі. Брат Міхала, Янка, займаўся гаспадаркай. Жыў непадалёк шафёра Скепкі на ўрочышчы Ровы. Шафёр Валодзя Скепка пасля фільмаў пад'язджаў пад свой дом на калёніі. Я заставаўся ў машыне. Ранкам запрашалі мяне на снеданне. Жонка Валодзіна, Зося, была ветлівай кабеткай, як і цесць Дубінскі з жонкаю. У шафёра былі тры дачкі Анеля, Тэрэза і малодшая, не памятаю як яе клікалі. Алік заўжды падсмейваўся з калегі, што ён „бабскі кравец”, ды навучаў яго як „пахадайнічаць” за сына. Навука кінамеханіка не пайшла ў лес. Валодзя Скепка ў найменш спадзяваным часе даведаўся, што будзе... бацькам. Але аб гэтым у чарговым допісе.

(працяг будзе)

❖ **Уладзімір СІДАРУК**

# На рэабілітацыйным аддзяленні(9)

З панядзелка пачаліся рэабілітацыйныя заняткі. Мяне першапачаткова абслугоўваў Пётр Харкевіч, пасля Магда Сікорская. Цудоўныя людзі, вопытныя спецыялісты. Перш-наперш я паспрабаваў распытацца пра Петруся Байко. Ніякіх падрабязнасцей я не даведаўся, адно спадар Харкевіч сказаў, што прозвішча яму вядомае і тое, што Байко многа піша пра гісторыю Белавежы. Пасля абеду ў святліцы на трэцім паверсе адбылася сяброўская сустрэча пры каве і гарбаце. Пачастунак рыхтавала тэрапеўтка Аня Леанюк. Усяго было ўдосталь: пячэнне, ласункі, фрукты, бананы, вінаград і гарачыя кава ды гарбата. А самае асноўнае, у зале царыла сяброўская атмасфера. У сталовай у час снедання я пазнаёміўся з Міркам з Адрынок і Лёнікам з Дубін. З таго часу мы сталі дружнай кампаніяй. Побач нас засадзілі дамы-сеніёркі: Яніна з Гайнаўкі, Марыя з Барысаўкі ды Ева з Беластока, затым з процілеглага боку Тэрэза з Гайнаўкі і Бася з Влацлаўка. Самымі маладымі курортнікамі аказаліся Івона з Бажэнай з Ніжнешлёнскага ваяводства, з-пад Алясніцы. З боку пачулася песня „Як шыбко плыне жыце”. Але абарвалася, паколькі ў зале не ведалі слоў і не падтрымалі спявачак. Адазваўся Лёнік:

— А можна мне заспяваць? — і, не чакаючы адказу, пачаў нашу, беларускую:

Там у лузе пры дарозе,
Расцвіла каліна...

Лёнік не быў навічком у „Ракітніку”, таксама як Марыя з Барысаўкі і Ева з Беластока. Гэтая апошняя лічыцца „ветэранам”, паколькі ў Белавежы рэабілітуецца дванаццаць год. Жанчыны пачалі разыходзіцца. Я падышоў да тэрапеўткі і запытаў, ці магла б яна падключыць у пакоі тэлевізар, затым камп'ютар. Калі я сказаў, што з'яўляюся карэспандэнтам „Нівы” і хачу высылаць у рэдакцыю тэксты, дык Аня абрадавалася і назвала некалькі прозвішчаў ніўскіх аўтараў: Янку Целушэцкага, Міру Лукшу ды Гандзю (прозвішча забылася). А ў дадатак сказала:

— Мая дачушка вучылася ў белліцэі і аднойчы сказала такое: „Мама, я беларускую мову лічу самай прыгажэйшай”...

Так мы правялі другі дзень у „Ракітніку” на рэабілітацыйным аддзяленні.

(працяг будзе)

❖ **Уладзімір СІДАРУК**




Гульня ў шахматы заўсёды лічылася карыснай для розуму. Здаўна людзі заўважылі, што яна развівае разумовыя здольнасці лагічна мысліць, разлічваць наперад правільныя і няправільныя крокі. Акрамя таго, што шахматы гульня інтэлектуальная, яна яшчэ і элітарная. У яе нашмат часцей гулялі каралі, цары, князі, чым сяляне ці мяшчане. Сёння гэтай гульнёй захапляюцца, бадай, у большасці краін свету. Не з'яўляюцца тут выключэннем і беларусы, хаця сярод іх чэмпіёнаў і чэмпіёнак свету па шахматах пакуль не было. Будзем спадзявацца, што прадстаўнікі беларускага народа яшчэ дасягнуць выдатных поспехаў у гэтым спорце, і не выключана, што паспрыяюць ім разнастайныя шахматныя клубы. Пра адзін з такіх, дзе не толькі вучаць гуляць у шахматы, але і не цураюцца беларускай мовы, варта распавесці асобна.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://chesshouse.by**, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прасценькае выяўленне сайта, які належыць мінскаму шахматнаму клубу „Шахматны дом”. „Шахматны дом — гэта клуб як для юных, так і для дарослых аматараў шахмат. Наша мэта — аб'яднаць усе ўзросты пад адным дахам нашага дома”, — сцвярджаецца на галоўнай старонцы сайта, дзе цяжка знайсці якія-небудзь вартыя ўвагі аздабленні ці фотаздымкі.

Як распавядаецца далей, клуб мае тры накірункі дзейнасці — навучанне шахматам дзяцей, дарослых і правядзенне турніраў. Асаблівай увагі заслугоўвае тлумачэнне карыснасці навучання гульні ў шахматы непаўналетніх. „Мы рыхтуем маленькіх шахматыстаў з нулявога ўзроўню і рыхтуем не толькі прафесійных шахматыстаў, але і ўсебакова развітых асоб”, — адзначаецца на галоўнай старонцы сайта „Шахматнага дома”.

На старонцы „Шахматная школа для дзяцей” гэтая думка мае працяг. „Шмат хто мяркуе, што шахматы развіваюць у дзіцяці матэматычныя здольнасці. І гэта праўда. Але гэта далёка не адзінае, што шахматы могуць даць для вашага дзіцяці. У першую чаргу гэтая старажытная гульня вучыць дзейнічаць самастойна, прымаць уласныя рашэнні і рабіць выбар без бацькоўскай дапамогі. Бо ў любой пазіцыі можна зрабіць шмат розных ходаў, але юны шахматыст сам павінны абраць правільны шлях. Гэтыя якасці неабходныя сучаснаму чалавеку. Акрамя гэтага шахматы робяць мысленне сістэмным, развіваюць логіку, творчыя здольнасці ды навучаюць асабліваму этыкету і правілам паводзін у калектыве”, — сцвярджаюць уладальнікі школы, якія, праўда, не абазначаюць сябе. На старонцы „Кантакт” ані іх імёнаў, ані прозвішчаў няма. Ёсць толькі нумары мабільных тэлефонаў і выйсці на акаўнты ў сацыяльных сетках.

Уладальнікі „Шахматнага дома” кажуць, што яны ўсцешаны вітаць у сябе не толькі жыхароў беларускай сталіцы, але і яе гасцей адусюль. „Шахматны дом” адчыняе свае дзверы для ўсіх аматараў шахмат — мінчукоў ды гасцей сталіцы. У нас можна ў прыемнай атмасферы, з кубачкам кавы ці гарбаты пагуляць з сябрам ці аднадумцам, абмеркаваць з трэнерам нашага клуба апошнія шахматныя навіны, згуляць невялічкі вечаровы бліц-турнір ці больш сур'ёзны ў класічныя шахматы”, — распавядаецца на старонцы „Шахматная гасцёўня”.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

Літаратар і выдавец са Случчыны



# 105 гадоў з дня нараджэння Янкі Золака

Беларускі літаратар, выдавец, дзеяч эміграцыі Янка Золак (Антон Даніловіч) нарадзіўся 1 (14 па новым стылі) лістапада 1912 г. у вёсцы Лучнікі пад Слуцкам. Паходзіў з заможнай сялянскай сям'і. Ягоны брат па маці — Алесь Змагар (Аляксандр Яцэвіч), слуцкі паўстанец, таксама дзеяч беларускай эміграцыі.

Першую адукацыю Даніловіч атрымаў у сямігодцы ў Лучніках, пасля якой два разы падаваў заявы ў Слуцкі педтэхнікум, але ў прыёме яму адмаўлялі як сыну серадняка. Скончыў Рагачоўскія настаўніцкія курсы (1930). У 1930-1935 гг. вучыўся на завочным аддзяленні Менскага педагагічнага тэхнікума. З 1930 г. пачаў працаваць настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Міраціна Бабруйскага раёна. Пэўны час працаваў карэктарам і памочнікам сакратара рэдакцыі бабруйскай газеты „Камуніст”. Там сустрэўся з Міхасём Лынькоўым і Васілём Віткам. Пасля педтэхнікума паступіў на завочнае аддзяленне літаратурна-лінгвістычнага факультэта Аршанскага настаўніцкага інстытута. Пераехаў у Гарбацэвічы, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў мясцовай школе.

З пачаткам вайны накіраваўся на зборны пункт мабілізацыі ў Бабруйск, але ваенкамат выехаў ужо ў Рагачоў, куды ўжо нельга было трапіць. Неўзабаве вярнуўся ў Лучнікі і пачаў з Лявонам Случаніным наладжваць работу мясцовай сямігодкі (Случчына ўжо апынулася ў глыбокім нямецкім тыле). Пачалі выдаваць рукапісны часопіс „Васілёк”, дзе Даніловіч змяшчаў свае вершы пад псеўданімам Антось Пяськяр. Гэты часопіс стаў прааобразам пазнейшай „Газеты Случчыны”. Пасля вайны праца ў школе і актыўная пісьменніцкая дзейнасць паводле савецкіх законаў лічылася здрадніцтвам і супрацай з ворагам. Каб пазбегнуць рэпрэсій, улетку 1944 г. Я. Золак быў змушаны эміграваць. Быў інтэрнаваны спачатку ў лагер „Гангофэр зідлюнг” у Рэгенсбургу, пазней у Міхэльсдорфе і Бакнангу. З 1945 па 1951 гг. працаваў у пачатковых беларускіх школках (Рэгенсбург, Віндышбэргердорф), а потым у беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе і Бакнангу. Пэўны час быў сакратаром Янкі Станкевіча ў беларускай адміністрацыі рэгенсбурскага лагера. У 1945 г. далучыўся да літаратурнага згуртавання „Шыпшына”, якое заснаваў у Рэгенсбургу Юрка Віцьбіч. У Міхэльсдорфе наладзіў выданне рататорным спосабам часопісаў „Вызваленьне” і „Дзіда”. Увесну 1946 г. адбылося знаёмства Золака з Лідзіяй Каліноўскай (1910-1963), таленавітай мастачкай, якая скончыла Варшаўскую акадэмію мастацтва. Каханай жанчыне ён прысвяціў шэраг сваіх вершаў. Іхні шлюб цягнуўся нядоўга, пасля смерці жонкі ў 1963 г. Я. Золак застаўся з дзецьмі.

У 1951 г. пераехаў у ЗША. Спачатку працаваў у старызніка, потым на чыгунцы. Урэшце наняўся на трыкатажную фабрыку, дзе рабіў да самай пенсіі. У 1957 г. атрымаў амерыканскае грамадзянства. Самастойна вывучыў друкарскую справу, перакупіў у а. Яна Пятроўскага друкарню і заснаваў выдавецтва „Адгук”. З 1960 г. становіцца адным з арганізатараў і галоўным рэдактарам грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса „Беларуская думка”. У 1992 г. Янка Золак прыехаў у Беларусь, дзе адзначыў свой 80-гадовы юбілей. Другі раз паэт прыязджаў у Беларусь у 1994 г., быў удзельнікам Першага з'езду беларусаў свету, пабываў у Лучніках, сустрэўся з роднымі, з Лявонам Случаніным. Памёр 30 снежня 2000 г. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі).

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

3 ☞ працяг

**Леанід Галубовіч**

# Распісаць Квадрат Жыцця

емная. Тут — усе вытокі, вузлы і ніты асновы яго чалавечага лёсу. І нельга не заўважыць, што верш „Бельскае маўчанне” А. Сцепанюка асацыятыўна перагукваецца з такімі вершамі яго зямлячкі Н. Артымовіч, як **** ікона/ лістападаўскі снег* і **** у Бельску старая музыка* альбо з гэтай заключнай страфой з яе верша **** свет укінуты ў бельскую байку*:

мой дзень
у бельскім небе
у дзіцячай калысцы спіць

Дарэчы, два поруч змешчаныя вершы прысвечаныя Надзі (ці не той жа ўпомненай Артымовіч?), як два сустрэчныя геаметрычна знітаваныя шляхі, якія, бы ў вядомым вершы А. Вярцінскага („дзве паралельныя прамыя”), насуперак логіцы ўсё-такі аднойчы сыходзяцца...

Можна адзначыць, што свой ненавязлівы метафарычны стыль паэт усё ж дапаўняе шматколернымі фарбамі, і ўсе яго вобразы, візначальныя і мімаходныя рэчы набываюць заўважнасць і адметнасць. А яшчэ ён даволі часта выкарыстоўвае кантрастныя супрацьпастаўленні, каб выкрасаць іскру жывога чытацкага роздуму нават у, здавалася б, ясных і лагічных месцах сваіх вершаў: рай і пекла, чорнае і белае (Бельск, Беласток), холад і сонца (*свежае* і нават *шолахаўскае* „чорнае сонца”), слых і голас, зрок і змрок, маладосць і старасць, недасканаласць і завяршэнне... Супярэчанні, з якіх высноўваюцца жыццёвыя ісціны, але і няпэўнасць і няўпэўненасць:

баюся
сказаць табе
гэтае слова
здаецца мне
не памятаю яго

альбо:

слова першае
непачутае
слова другое
забытае
слова трэцяе
неадгаданае

Аднак ёсць і катэгарычная пэўнасць, якая не падлягае аспрэчванню: *запалі святло, памый рукі*, што пацвярджае, на маю думку, яснасць пагляду і чысціню пачуццяў самога аўтара.

Нельга не ўпомніць нешматлікую і нешматслоўную тэматыку кахання ў творчасці паэта. Своеасаблівае безадказнае каханне з фізічнай адсутнасцю, але прысутнасцю пачуццёвай (і ў гэтым праглядваецца сутнасная пазнака ўсёй паэзіі А. Сцепанюка ўвогуле). Бо, як сцвярджае Я. Вапа, паэт *распачынае, як аказваецца, не гульню з паэзіяй, але стараецца з ёй нейк уладкавацца ў сваім жыцці на доўгія гады. Каханне вымагае цярплівасці, паэзія таксама.*

Хацелася б вылучыць вершы, якія найбольш уразілі мяне — гэта „Нуль восем”, прысвечаны А. Барскаму, ужо ўпомнены верш „Літаратура”, прысвечаны М. Андрасюку, верш на зачыне кнігі „Паварот” і безназоўны верш ***„на паперы...”. З апошняга, каб не быць галаслоўным, працытую наступныя радкі:

на паперы
не відаць
літар
яны не крычаць
позіркам свайго
сэнсу
здзяйсняецца
нябачнае
непрыкметнасць
якая больш кажа
чым напісана

З кантэксту рэцэнзіі заўважна, што я дастаткова шмат цытую аўтара, у адрозненне ад нашых маладзейшых крытыкаў, якія ўвогуле ў сваіх *дасціпных* рэцэнзіях схіляюць чытача верыць найперш іх слову, а не аўтарскаму. Цытат амаль няма, з чаго вынікае, што ў выданні аўтара ўсё адмыслова таленавітае — купляйце кнігу і ўпэўніцеся самі (ці то ўсё там шарагова дабротнае, што немагчыма нават выбраць арыгінальную цытату, каб спакусіць таго ж чытача да прачытання кнігі?). Сам жа А. Сцепанюк адкрыты для чытача і падчас празмерна:

кожны след свой пакідае гавару
і замазваю тое што раней напісаў

Усцешвае і прыцягвае, што паэт сваім крэўным атожылкам звязваецца і спрабуе знітавацца адзіным нервам з усёй Беларуссю, пра што сведчаць прысвячэнні сімвалічнай „дзяўчыне з Плошчы” (2010), пісьменніку Б. Пятровічу, а таксама заключны верш-малітва за Беларусь (**** за тых хто ходзіць па крывых шляхах*...).

Вось строфы з верша ***„З кахання пачнецца Слова”:

Са слова вырасце нескладаны Сказ
граматычна просты і недасканалы ў форме
Са сказам адкрыюцца вусны
і горла зробіць праверку Голасу
Голас зварушыць Думку
вырве яе са сну і дрымоты
Думка скажа цэлу змагацца штодзённа
за дасканаласць сваіх Рук
Рукі разваляць старыя сцэны
і пабудуюць новую Святыню

Вядома, у кнізе ёсць моўныя і *невымоўныя* хібы, месцы, на якіх я спатыкаўся, якія, вядома ж, не выклікалі майго чытацкага захаплення... Але, як прадметна заўважае Я. Вапа, аўтару да дасканаласці кожнага свайго верша, як асобнага твора, трэба яшчэ расці... І, дарэчы, заўважна, што паэт штораз стараецца дамагчыся, наколькі яму дазваляе ўласная адоранасць, выбітнасці кожнага верша, хоць нідзе не дэкларуе сваёй мастацкай непагрэшнасці, а тым больш, не прэтэндуе на *святасць* свайго (бельска-падляшскага) пісання... Андрэй Сцепанюк, найперш, перайімаецца захаваннем сваёй сыноўняй памяці, уласнай грамадзянскай годнасці ды праявамі непадробнай любові і літасцівасці да ўсіх, з кім жыў і да ўсяго пражытага і перажытага...

*Калі паэзія Андрэя Сцепанюка дасць стымул для нашых думак і душ, значыць, яна абараніласяа,* — піша Я. Вапа. На што я, прачытаўшы кніжку „Распісаны квадрат”, адкажу станоўча: так, вершы і творчасць А. Сцепанюка стымулююць беларускую паэтычную думку і філасофію, не абыходзячы і нашу нацыянальную ментальнасць. У змесце яго вершаў чытач можа знайсці і нашу схаваную слабасць і заўважыць нашу патэнцыйную моц — і чалавечую, і грамадзянскую, і дзяржаўную. Хіба не жыве глыбокая філасофская ісціна ў гэтых радках паэта:

Адным рухам патушы сонца
У абыякавасці цемры будзем лепш бачыць
сваю неабходнасць

Дык давайце ўсе разам ярка распішам чорны квадрат нашага нацыянальнага лёсу, стварыўшы ўяўленне яго бязмежнасці.

*Рэцэнзія была надрукавана ў «Дзеяслове» № 88 (3, 2017)*

Андрэй Сцепанюк, *Распісаны квадрат*, Бельск-Падляшскі 2016

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. правы прыток Волгі ў... сакавіку = 16 _ 12 _ 9 _;
2. вялікая сібірская рака = 34 _ 17 _ 18 _ 11 _ 29 _ 27 _;
3. немалітоўны амін, які мае... амерыканец = 6 _ 7 _ 10 _ 21 _ 35 _;
4. працаўнік стайні = 32 _ 26 _ 28 _ 14 _ 1 _;
5. хлопчык з дваран у каралеўскім... экіпажы = 30 _ 31 _ 15 _;
6. вельмі важная фігура, не толькі ў картах = 25 _ 13 _ 8 _;
7. танец, які танцуе іспанская... пяхота = 19 _ 3 _ 2 _ 20 _;
8. грашовае выражэнне вартасці тавару = 22 _ 33 _ 4 _ 5 _;
9. паслухмянае дзіця = 23 _ 24 _ 36 _ 37 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Машэраў, душ, калена, аўторак, прыбой, падарожнік, Каўказ, каламажка, Лаша, малітва, кулак.

Рашэнне: **Прыйшла Пакроўка, не дала малака кароўка**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 05.11 — 11.11

**(22.03. — 20.04.)** Трохі абавязкаў, але і прыемнасці. Удадуцца твае прафесійныя планы, кампанія таксама будзе неблагая. Але 6-12.11. можаш прыняць фатальныя рашэнні, вельмі пільнуйся. Магчымы пажар у пачуццях. Пазнаёмішся з многімі, але тыя знаёмствы пойдуць з ветрам. Задбай аб свой страўнік, не запіхвай яго абы-чым.

**(21.04. — 21.05.)** Смела ажыццяўляй свае намеры. Не паддавайся націскам. Падводзь і карэкціруй свае планы. Трэба будзе заняцца таксама нуднымі, нецікавымі заданнямі. Але зробіш добрае ўражанне на іншых. У пачуццях выбірай мудра. Дбай аб свой страўнік. 5.11. можаш сур’ёзна пагаварыць пра будучую. 5-6.11. не эксперыментуй са сваім выглядам.

**(22.05. — 22.06.)** Засяродзься на дасягненні мэт, не раздрабняйся на абы-што. Асабліва, калі шукаеш партнёра. Ты цяпер на апошняй простай да фіналу да поспеху ў прафесіі. Добра складуцца лады з раднёй. Але 6-12.11. чамусьці не будуць цябе цешыць твае дасягненні. Будуць нагоды да падарожжаў і пашырэння гарызонтаў. Слухай добрых парад. Пі добрую ваду.

**(23.06. — 23.07.)** Лёгка наладжваеш кантакты, маеш «нос» да людзей. Ніхто цябе не абмане і не выкарыстае. 7-11.11 зойдзеш новае захапленне, навучышся чагосьці карыснага. Спрыяюць табе Сонца і Юпітэр, будзе прыемна і здавальняюча. Але не нарабі сабе магутных ворагаў. Не пхайся прад шэраг і на афішу, з жалезнай абавязковасцю выконвай свае заданні. Задбай аб свае далоні.

**(24.07. — 23.08.)** Нуды не будзе, затое крыху нерваў. Не дазволь, каб табе не хапала самаўпэўненасці. 5.11. крыху аддыхайся. Трэба будзе паладзіць пару спраў дома. На працы таксама далёка ад ідыліі. 9-11.11. хтосьці схоча паставіць цябе ў кепскім святле. Здароўе крыху слабейшае ў лістападзе. Пі какаву, еж горкі шакалад. Цёпла апранайся.

**(24.08. — 23.09.)** Ясна вызначы свае мэты і кіруйся да іх, эліміноючы памылкі. Аплаціцца рызыка, вядома, у разумных межах. Наладзіш каштоўныя знаёмствы. У пачуццях — рамантызм. 7.11. час рэалізацыі супольных планаў і змен, папраўляючых камфорт жыцця. Хоць не будзеш у лістападзе тытанам працы, чакае цябе поспех у кар’еры.

**(24.09. — 23.10.)** Нагоды спадуць на цябе раптам, не будзеш ведаць, што выбраць. Але наробішся за трох! Марс падагрэе твой тэмперамент і дадасць сілы да барацьбы. Пашырыш свае гарызонты. Пра фінансавыя бонусы задбаюць Венера і Юпітар. Але 5-6.11. хтосьці будзе вастрыць зубкі на твайго партнёра. З 11.11. (да 15.11.) чакай прыліву грошай, хтосьці запрапануе табе залаты інтарэс!

**(24.10. — 22.11.)** Хаця форма будзе горшая, знакаміта справішся з усімі заданнямі. Выкажы толькі больш адвагі і ініцыятывы. Акалічнасці складуцца на тваю карысць. У пачуццях ацяпляй атмасферу. На сямейных імпрэзах зацьміш нават юбіляра! Але цяжкавата будзе ўзяцца за працу. Кашалёк пукаты! Знойдзеш новыя крыніцы заробку. І можаш грошы выдаць на сябе, на паправу свайго іміджу.

**(23.11. — 22.12.)** Захавай хоць мінімум разваг, але не адступайся перад выклікамі. Дасягнеш усяго, на чым табе залежыць. Не час на лятанне ў воблаках, будзе канфрантацыя з рэальнасцю. Мноства энергіі. Пераканаеш атачэнне да тваёй думкі. Але не страчвай галавы ад пачуццяў, бо ці варта? Вельмі дбай аб здароўе, бо цікуюць інфекцыі (аж да 22.11.).

**(23.12. — 20.01.)** Скінеш урэшце панурую маску і шырока ўсміхнешся да людзей. Адкажуць яны табе тым самым. Здабудзеш многа новых сяброў. Паспяхова пераможаш канкурэнцыю на працы, хаця тэмп жыцця будзе момантамі для цябе надта хуткі. Ажывуць твае надзеі. 7-11.11. — можаш з поспехам штосьці змяніць ці паправіць.

**(21.01. — 19.02.)** Усё, чаго дасягнеш у лістападзе, будзеш абавязаны ўласнай працы, прадпрымальнасці і баявітасці. 5.11. магчымы землятрус у тваёй пары. Павялічацца твае прафесійныя амбіцыі. З нагрувашчанымі абавязкамі справішся прыпяваючы. Магчымасці для навукі новага. Не будзеш маэстра дыпламатыі на працы, але хопіць табе адвагі і працавітасці. Не раскідвайся грашыма. Зрабі штосьці для сябе, свайго ўнутранага развою.

**(20.02. — 21.03.)** Зоркі будуць для цябе вельмі шчодрыя. Атрымаеш усё аб чым толькі замарыш! Купіш штосьці прыгожае і камфортнае. Ва ўсім знойдзеш скрыты сэнс. На працы здабыткі ў тых, хто творчы і камунікабельны. Не пабаішся атакаў вірусаў. Але калі будзеш адчуваць сябе кепска, абследуйся, ці не атакуе цябе нейкая трапічная бактэрыя.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**




Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Лёнік у сябе ў Ліцэі

**Лявон Тарасэвіч, вядомы ва ўсім свеце мастак родам з Падляшша, увесь час вяртаецца да сваіх вытокаў. У апошні час літаральна, на радасць аматарам ягонай творчасці і землякам. Асабліва Супрасль можа ганарыцца ягонымі працамі — сцены Супрасльскай акадэміі і ад 27 кастрычніка — ягонай роднай сярэдняй школы — Мастацкага ліцэя імя Артура Гротгера ў Супраслі. Тут ён жыў пяць гадоў, займаўся ў коле і працаваў. Абышоў усе супрасльскія сцежкі днём і ноччу з эцюднікам. Тут засталося шмат ягоных ювенальных прац — у школьных вучнёўскіх зборах, якія застаюцца ў ліцэі ад выпускнікоў.**

Гэтыя працы і шмат іншых з часу юнацтва і маладосці Лявона Тарасэвіча апынуліся на сценах залы «Пад карыятыдамі» ў мурах палаца — сядзібы ліцэя. А школьныя калідоры, зала і клас, дзе цяпер ліцэісты вывучаюць гісторыю мастацтва, шчыльна запоўніліся гарачымі прыхільнікамі таленту мастака. Былі і радня Тарасэвічаў (цёця, сястра, сваякі), аднакласнікі з ліцэя і сябры-мастакі з Варшавы, настаўнікі і перш за ўсё цяперашнія вучні, для якіх майстра знайшоў час на свабодную лекцыю пра тое, як стаць мастаком. Цяпер яны маюць у ліцэі больш факультэтаў. Лявон Тарасэвіч, які вучыўся тут у сямідзясятыя гады (з тых гадоў 30 прац на выставе), быў вучнем спецыялізаванага класа па ткацтве, але ягоным захапленнем быў жывапіс. Апрача праграмных заняткаў па рысаванні ды маляванні, так як і цяпер, найбольш заўзятыя вучні, сярод якіх быў і Лёнік, не расставаліся з эцюднікам.

— Мы малявалі шмат самастойна. Усё дало такі эфект, што мы, на пятым годзе вучобы, былі вельмі добра падрыхтаванымі. Але ніхто нам тады не сказаў, што такое мастацтва, дзеля чаго мы гэта робім. Да гэтага трэба было даходзіць самастойна. За зробленыя грошы купілі мы з хлопцамі веласіпеды, паехалі па свеце па галерэях, па выставах. У Нямеччыну заехалі, у Чэхію. Важны быў таксама кантакт з самымі мастакамі, удзельнікамі выстаў, артыстамі, якія ведалі, што хочуць выразіць у мастацтве, і ўжо значылі многа ў незалежным мастацкім свеце. А ў вашым варыянце таксама, — звярнуўся да вучняў, — каб не канфліктаваць са школай, трэба выконваць усе свае абавязкі, здаваць тое, чаго яны хочуць, а з другога — ездзіць як найбольш па выставах сучаснага мастацтва, для чаго, вядома, патрэбная каса. А калі няма, што ж, уваходзіш у Гугл і глядзіш, што адбываецца. І ездзіць на вернісажы, напрыклад у Варшаве. Не мусіш штудзіраваць на Акадэміі мастацтваў, а на іншай вучэльні, якая развіне цябе інтэлектуальна, напрыклад, у міжвучэльняных факультэтах, і глядзець што адбываецца ў мастацтве, хадзіць на вернісажы. І размаўляць з мастакамі... Я ведаў, чаго мне бракавала. Першая справа — я заплаціў «фрыцовае», калі з-за аднаго пункту не трапіў з першага разу ў Акадэмію і схапіла мяне на два гады войска. А без экзаменаў ішлі ў акадэмію дзяўчаты, якія ўвогуле не малявалі. А пасля на вучэльні не хапала мне двух гадоў, пакуль я зраўнаваўся культурна са студэнтамі з Варшавы... А пасля важнае тое, каго сустракаеш у жыцці і з кім ты ёсць. Тут ёсць са мною Кшысь і Янэк з Фаленіцы, у якога я жыў, былі творцы. Я меў таксама шчасце, што адразу пасля вучэльні, якая на мне таксама зрабіла благое ўражанне — расла новая кадра навукоўцаў, якая не была творчымі мастакамі — трапіў адразу за мяжу, і за мяжой сустрэў я людзей, якія мяне інспіравалі і мне дапамагалі. Важнай асобай для мяне быў Ежы Навасельскі і сустрэчы ды размовы з ім, дзякуючы якім я мог вытрымаць і працаваць ва ўмовах «варшаўкі» і іншых месцаў...

— Мая мама перажывала, што з мяне «як заўша як не ў людзей» — я не так рабіў, не так апранаўся... Тым больш што нават у Гарадку было ў што апрануцца, бо была трыкатажная фабрыка. Працавала там пяцьсот жанчын, якія рабілі «натаванні», хто выглядае па-людску. Я думаю, што тое, што ратуе тут такое быццё, гэта наведванне інтэлектуальных цэнтраў. Для вас найбліжэй тут — Варшава. Глядзіце ў інтэрнэце: вось у Катавіцах будзе выстава Міраслава Балкі ў Сілезскім музеі... Трэба глядзець, хто ёсць важны з мастакоў. Уцякаць ад тых, хто робіць «паверху». Я вельмі злосны, што з нашага ліцэя вучні баяцца стартаваць напрыклад у Варшаву. Выбіраюць такія школы, якія бацькам бы адразу «даюць хлеб». Нельга ў 18 гадоў адразу ісці на кампраміс! З гэтай школы, з гэтага пояса зямлі, дзе, здаецца, найбольш цікавых людзей, бо культурна кожны з вас нейкі «пагімячаны», «пакручаны», што ідзеце на «ўгоду». І ад нейдзе трох гадоў я бачу, што паяўляюцца нейкія нашы студэнты, і на маім факультэце і на іншых у варшаўскай акадэміі. Мы адразу ведаем, хто з нашых добрых студэнтаў паявіцца ў Пазнані, у Гданьску. Добра, што ёсць наша «маладая экіпа». Гэта з майго пакалення мы першыя сталі цвёрдай нагой у Польшчы. Гэта Янэк Грыка з Гайнаўкі з «Галерэяй Бялай» у Любліне, Міраслаў Віленік (яго бацька з-пад Гарадка, з Зарэчан), Кшысь Саловей з Беластока, якога бацькі з Нараўкі, з маладзейшых — Малгося Дмітрук з Бельска (бацькі з Мокрага)... Гэтая наша група мае ў Польшчы вельмі моцную, цвёрдую пазіцыю. Трэба ісці за сваім, і ісці як найдалей....

Лявон у жартах звярнуў увагу вучняў на тое, што цяперашні ліцэй іншы ад тадышняга.

— Падазрона чыста, свежа памалявание, не смярдзіць фарбай... Але ліцэй можа пахваліцца вельмі файнымі выпускнікамі, якія ёсць у вышэйшых школах. Але думаю, што яшчэ больш павінен быць накіраваны ў мастацкі бок. Мусіць быць нейкі аўтарытэт. Я памятаю, што я быў у тым «горшым класе», але тое, што Януш Дэбіс меў свае выстаўкі, мела для нас вялікае значэнне — наш школьны прафесар выстаўляе свае працы як мастак! Я тады яшчэ не ведаў, што ён канчаў студыі ў Цыбіса... Трэба чытаць і глядзець...

Моладзь звярнула ўвагу на адну з прац Лявона Тарасэвіча — партрэт Яся Шэрэмэты.

— Ясь Шэрэмэта гэта мой сябра. Мы як падшыванцы назбіралі грошай на ровары, купілі іх, папрыкручвалі святло і іншае, і як у дзевяць выехалі са Станцыі Валілы, у шостую ўвечары былі ў Аўгустове, і далей пакруцілі. А калі мы мелі ўжо пачатку ў пасведчанні што мы дарослыя, паехалі далей — у Берлін, у Дрэздэн, у Браціславу, у Прагу... Глядзець тое, што важнае ў мастацтве. У Празе першы я раз убачыў Брэйгела і імпрэсіяністаў. З Ясем засноўвалі мы разам рок-гурт, з Ясем пісалі мы першыя вершы, з Ясем мы хацелі праверыць, што дзесьці ёсць іншы свет, іншыя дзяўчаты...

Сярод малюнкаў Лявона Тарасэвіча на выставе — партрэты яго бацькоў, сяброў, яго аўтапартрэт. І краявіды-замалёўкі з Гарадоччыны, з Супраслі. Між іншым вельмі цікавы малюнак, які Лёнік зрабіў ноччу — гэта «старая канюшня», дзе знаходзіліся і знаходзяцца ткацкія майстэрні. Свойскія малюнкі. Як свойскія былі і госці, і гаспадары выставы. Можна дашукацца сярод іх радні — між іншым прысутны на выставе войт Супрасльскай гміны Радаслаў Дабравольскі прызнаўся да сваяцтва з Тарасэвічамі. На выставе і ў кулуарах што і раз ціскаліся размашыстыя «мядзведзікі», паяўляліся і слёзы ўваччу. Бо не было сярод гасцей і Яся Шэрэмэты, і іншых сяброў, і настаўнікаў, і мамы, якая так папракала Лёніка, што ў яго «не так як у іншых». А вось гэта і добра — што інакш.







Лявон ТАРАСЭВІЧ

* * *

Душны блакіт стаіць над Кальдонья
выяўляючы гарманічныя прапорцыі
вілы Паладзі

...паўзе па карнізах дастаецца
ўсярэдзіну і знаходзіць схоў
у рэнесансных фрэсках

... ажывае на сценах старадаўні тэатр,
пахвала ілюзіі жывапісу

... час спыняецца для одуму.

... вяртаюся ў думках у сонечны
зімовы дзень у маім
Беластоцкім Краі.

...Халодны блакіт ценяў дрэў кладзецца на
паверхню свежага снегу, выяўляючы
структуру заараната поля

... у дзіўны спосаб узнікае
гарманічная, рэнесансная логіка
перад маімі вачыма

... дых прыроды кліча ідэі
з даўніны.

... каторы ўжо раз думкі запісаныя рукой
у мінулым даюць пачатак
сучаснасці?

... халодным блакітам кранаю сцэны вілы
ў Кальдонья, сонца Беласточчыны
рысуе новую рэальнасць.

Лапічы, 14 жніўня 2009 г.
Пераклад Міры Лукшы

ISSN 0546-1960